# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С.-ГАСПАДАРКІ



№ 18

СЬНЕЖАНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

## ЗЬМЕСТ



### Шырэй фронт калектывізацыі

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць 2 разы ў месяц

| № 18 (23) | Сьнежань | 1930 г. |
|---|---|---|

## ДА ДРУГОЙ БАЛЬШАВІЦКАЙ ВЯСНЫ

Леташняя бальшавіцкая веснавая пасеўная кампанія мела вялізарнае палітычна-гаспадарчае значэньне. У гэтую вясну значная частка серадняцкіх гаспадарак, сьледам за батракамі і беднякамі, зразумеўшы перавагі буйной абагуленай сельскай гаспадаркі, аб'ядналася на добраахвотных пачатках у калгасы і правяла сяўбу на калгасных палёх. Тэарэтычна была даведзена і праверана на вопыце соцень тысяч ва ўмовах БССР, і мільёнаў ва ўмовах Савецкага Саюзу, магчымасьць пры дыктатуры пралетарыяту непасрэднага пераходу ад сялянскай малапрадукцыйнай індывідуальнай гаспадаркі да буйной калгаснай вытворчасьці.

Узорная работа саўгасаў і калгасаў спрыяла далейшаму пашырэньню пасеўных плошчаў у адзінаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках, прычым плян сяўбы па саўгасах і калгасах быў выканан з перавышэньнем.

Гэтыя посьпехі былі дасягнуты партыяй у рашучай барацьбе за генэральную лінію партыі, з правым апартунізмам, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, і з „левымі“ загібамі і прымірэнцамі да ўхілаў, у змаганьні па выкарчоўваньні кандрацьцеўшчыны і прышчэпаўшчыны ў зямельнай і калгасна-каапэрацыйнай сыстэмах.

Камуністычная партыя, пад кіраўніцтвам свайго ленінскага ЦК, дабілася рашучых посьпехаў у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і стварыла спрыяючыя ўмовы, для яшчэ больш пасьпяховага разгортваньня будаўніцтва саўгасаў і калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Цяпер ня толькі партыя, рабочая кляса, але і ўчарайшыя індывідуальныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія сталі на шлях калектывізацыі с.-г. вытворчасьці, будуць актыўна змагацца за калгас.

Надыходзячы бальшавіцкая вясна ставіць перад намі такія асноўныя задачы:

Далейшы, яшчэ больш шпаркі тэмп перабудовы сел. гаспадаркі на сацыялістычных пачатках, які забясьпечвае праз будаўніцтва саўгасаў і калгасаў для сацыялістычнай прамысловасьці і рабочае клясы сацыялістычную сельска-гаспадарчую сырцовую базу і прадукты харчаваньня, матар'яльнае і культурнае палепшаньне становішча бядняцка-серадняцкага сялянства.

*Веснавая сельска-гаспадарчая кампанія павінна зьявіцца вагаром масавай калектывізацыі, новага магутнага прыліву ў калгасы, бядняцка-серадняцкага сялянства, які забясьпечвае ажыцьцяўленьне генэральнага лёзунгу партыі аб ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектызацыі.*

Пашырэньне існуючых і арганізацыя новых калектыўных гаспадарак павінна праходзіць з захаваньнем ленінскага прынцыпу поўнай добраахвотнасьці, пры адначасовым шпаркім разгортваньні шырокай растлумачальнай работы сярод бядняцка-серадняцкай масы сялянства аб перавагах буйной сацыялістычнай гаспадаркі, даводзячы гэтыя перавагі на прыкладах лепшых калгасаў.

Трэба разгарнуць належную работу па ўцягненьні бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні, арганізуючы спэцыялізаваныя паселішчныя таварыствы, каб ахапіць аб'яднаньнямі ўсе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, неўвайшоўшыя пакуль што ў калгасы.

Дваццаць машынатрактарных станцый, якія арганізуюцца да вясны, зьявяцца магутным вагаром далейшай сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ў БССР. Гэтыя маш.-тракт. станцыі зьявяцца магутнай дапамогай конскай цягавай сіле, якую трэба ўсямерна разьвіваць і ўзмацняць, вядучы жорсткую барацьбу супроць забою коняй і маладняку. Перад усімі машына-трактарнымі станцыямі стаіць практычная задача—дабіцца рацыянальнага скарыстаньня машын—ня менш 2.500 гадзін працы кожнай з іх на працягу году. Гэту задачу можна ажыцьцявіць толькі тады, калі машына-трактарныя станцыі перавядуць сваю работу на 2,5—3 зьмены. З прычыны гэтага *ужо цяпер трэба шырока разгарнуць працу па заключэньні дагавароў на апрацоўку глебы, сваячасова скласьці вытворчыя пляны і падрыхтаваць кваліфікаваную рабочую сілу—трактарыстаў-мэханікаў.* Трэба дабіцца сьвядомых адносін да працы з боку трактарыстаў. Трэба зараз-жа прывесьці ў парадак наяўны трактарны парк, машыны і с.-г. інвэнтар, скончыўшы рамонт не пазьней 1-III 1931 г.

Баявая задача—пашырэньне пасеўнай плошчы яравых культур на 17 з лішкам процантаў (у сярэднім па рэспубліцы) з ваганьнямі ад 12 да 35 проц. па паасобных раёнах. Удзельная вага сацыялістычнага сэктару сельскае гаспадаркі павінна зьмяніцца ў бок павялічэньня—з 18 проц. мінулага году да 37 проц. у 1931 г. Ураджайнасьць трэба павысіць у параўнаньні з сярэднімі ўраджаямі за апошнія 3 гады перад пяцігодкай: у саўгасах—па збожжавых—ня менш чым на 110 проц.; па тэхнічных—35 проц.; па бульбе—50 проц.; у калгасах—па збожжавых—ня менш чым на 50 проц., па тэхнічных—30 проц., па бульбе—30 проц. і па індывідуальным сэктары—па збожжавых—ня менш чым на 25 проц., па тэхнічных—30 проц., па бульбе—25 проц.

Задачу пашырэньня пасеўнай плошчы трэба ўвязаць з спэцыялізацыяй сельскае гаспадаркі ў напрамку разьвіцьця тэхнічных культур (ільну і канапель, бульбы як тэхнічнай, так і кармавой), а таксама кармавых расьлін для стварэньня патрэбнай кармавой базы буйному

малочнаму жывёлаводзтву і прамысловаму сьвінаводзтву. Каб забясьпечыць пашырэньне яравога кліну на 400 тыс. гэкт. па рэспубліцы, трэба поўнасьцю скарыстаць мэліяраваную плошчу—ня менш 30.000 гэкт, распашку сухадолаў—125 тыс. *га* раскарчоўку і распашку пад кустарнікі і лес—125 тыс. *га* і плошчу пад папар—200 тыс. *га*. Скарачэньне папару і ўзворваньне сухадолу трэба цясьнейшым чынам увязаць з пытаньнямі засеву траў, кораньклубняплодаў, з тым, каб папар можна было ў асноўным замяніць кармавымі расьлінамі, кормакораньплодамі ў бліжэйшыя-ж гады.

Трэба правесьці засеў гатунковага насеньня на плошчы 195 тыс. гэкт. У саўгасах не павінна быць засеяна пад збожжавыя культуры ні аднаго гэктару негатунковага насеньня. *Трэба ачысьціць насеньне збожжавых і тэхнічных культур (лён і каноплі)—на ўсе 100 проц. ад высяванай колькасьці ў саўгасах, калгасах і бядняцка-серадняцкіх гаспадарках, прычым ня менш 80 проц. насеньня павіннна быць прапушчана праз трыер.* Рабіць засеў яравых культур радавым пасевам, коннымі і мэханічнымі сяўяркамі ў саўгасах на плошчы 46 тыс. гэкт., у калгасах—150 тыс. гэкт., па вытворча-каапэрацыйных аб'яднаньнях—50 тыс. гэкт. *Правесьці тарфаваньне глебы на плошчы 40 тыс. гэкт.*, з якіх у саўгасах—5 тыс. гэкт., калгасах 25 тыс. гэкт., вытворчых таварыствах—10 тыс. гэкт. *Завапнаваць 30 тыс. гэкт.*: у саўгасах—5 тыс. гэкт., калгасах—20 тыс. гэкт., вытворчых таварыствах—5 тыс. гэкт., сваячасова забясьпечыўшы загатоўку адпаведнай колькасьці молатай вапны.

*Па прыкладзе мінулых год трэба фарсаваць мерапрыемствы па зборы попелу*, прычым скарыстаць яго трэба пад лён і гародніну.

Трэба забясьпечыць рашучы пералом у разьвіцьці ільнаводзтва і канапляводзтва, пашырыўшы плошчу пад лён—на 53 проц. і каноплі—на 85 проц., давёўшы яе ў асноўных ільнаводных раёнах да 30 проц. агульнай пасеўнай плошчы ў даных раёнах.

Нізкі ўраджай тэхнічных культур у мінулым ставіць як адну з практычных задач *павышэньне ўраджайнасьці ільну і канапель*, каб стварыць магчымасьць поўнага забесьпячэньня запатрабаваньняў сацыялістычнае прамысловасьці на ільняны і канапляны сырэц.

Першачарговая задача—для ільнаводных раёнаў—максымальнае разгортваньне масавай работы па арганізацыі калгасаў, вытворчых аб'яднаньняў, а таксама забесьпячэньне саўгасаў і калгасаў ільнаводных раёнаў мінэральнымі ўгнаеньнямі.

Неабходна ўжо цяпер энэргічна ўзяцца за загатоўку насенных матар'ялаў, асабліва кармавых і тэхнічных культур, з адначасовым стварэньнем насенных і страхавых фондаў як у існуючых, так і ў новых калгасах у разьмеры 460 тыс. тон. Па камітэтах сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі гэта праца павінна быць праведзена не пазьней 1 студзеня 1931 г.

Далейшую арганізацыю спэцыялізаваных насенаводных саўгасаў і калгасаў трэба праводзіць з такім разьлікам, каб пасевамі 1931 г. (на насеньне) дэфіцытных культур, асабліва лугавых траў, канюшыны, кармавых і гародных кораньплодаў, лубіну, у асноўным забясьпечыць у наступныя кампаніі запатрабаваньні сельскае гаспадаркі насенным матар'ялам мясцовай вытворчасьці.

*Трэба ўжо цяпер пляны пасеўных плошчаў давесьці да саўгасу, калгасу, паселішча і сялянскага двара. Кулацка-заможным дварам павінны быць даны цьвёрдыя заданьні праз сельсаветы.*

Неабходна ўжо цяпер разгарнуць шырокую масавую работу праз перыядычны друк і шляхам выданьня адпаведнай сельска-гаспадарчай літаратуры, прасоўваючы яе ў шырокія масы рабочых саўгасаў, калгасаў і бядняцка-серадняцкага сялянства.

Ліміты пляну веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі могуць быць пасьпяхова выкананы пры ўмове максымальнай мабілізацыі навакол гэтых задач шырокіх мас рабочых калгасьнікаў, бядняцка-серадняцкага сялянства і грамадзкіх арганізацый.

Трэба на прыкладзе мінулых год паслаць на дапамогу раёнам рабочыя брыгады і адказных працаўнікоў рэспубліканскіх арганізацый, забясьпечыўшы сацыялістычныя мэтады працы ў падрыхтоўцы да сяўбы.

*Бальшавіцкая веснавая сельска-гаспадарчая кампанія будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы.* Кулак і яго агенты будуць імкнуцца зрываць нашы важнейшыя мерапрыемствы, проціпастаўляць сваю лінію—лініі партыі, сарваць лінію ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Нашай задачай зьяўляецца—працай па калектывізацыі даць ня толькі рашучы адпор, але зламаць яго супраціўленьне і ліквідаваць яго як клясу на базе суцэльнай калектывізацыі.

Нашым адказам апартуністам, якія зьяўляюцца кулацкімі агентамі ўнутры партыі, шкоднікам і інтэрвэнтам, будзе *выкананьне і перавыкананьне пляну веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі.* Створым ударныя брыгады, ударныя саўгасы і калгасы па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, разгорнем сацыялістычнае спаборніцтва ва ўсёй рабоце па падрыхтоўцы веснавой пасеўнай кампаніі. Выкарчуем кандрацьцеўшчыну і прышчэпаўшчыну ў зямельнай і калгасна-каапэрацыйнай сыстэме.

За далейшую масавую працу па калектывізацыі сельскае гаспадаркі і будаўніцтве саўгасаў, за далейшую працу па павялічэньні і пашырэньні вытворства сырцу для прамысловасьці і прадуктаў харчаваньня для рабочае клясы.

Вось асноўныя задачы, якія стаяць перад усімі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі пры правядзеньні другой бальшавіцкай вясны.

Мабілізуючы рабочую клясу, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы сялянства на рашучае змаганьне з кулацтвам, на бязьлітасны адпор усім вылазкам клясавага ворага, ліквідуючы кулацтва як клясу на базе суцэльнай калектывізацыі, жорстка распраўляючыся з кулацкімі ідэалёгамі—агентамі міжнароднай контр-рэвалюцыі, якія падрыхтоўвалі дывэрсыйныя акты і інтэрвэнцыю, а таксама з вольнымі ці нявольнымі памочнікамі клясавых ворагаў—правымі і „левымі“ апартуністамі ды іх права-„лявацкім“ блёкам—партыя выканае задачы другой бальшавіцкай вясны, пасьпяховае правядзеньне якой забясьпечвае выкананьне пяцігодкі за чатыры гады.

**Масюкоў.**

**Асноўная задача—да вясны калектывізаваць 35 проц. бядняцка-серадняцкіх двароў, аб'яднаць у вытворчыя каапэрацыйныя т-вы 85 проц. адзінаасобнікаў, пашырыць яравы клін на 17 проц., узьняць ураджайнасьць, павысіць удзельную вагу тэхнічных і кармовых культур.**

# САЎГАСЫ
# І ПАДРЫХТОЎКА ДА ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ

Пад кіраўніцтвам партыі і на падставе яе генэральнай лініі саўгасы сёлета дабіліся вялізарных посьпехаў. Вядучая роля саўгасаў і іх удзельная вага ў социялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі БССР значна ўзрасла. Усё больш і больш мэханізуючыся, ужываючы апошнія дасягненьні тэхнікі і навукі ў галіне сельскай гаспадаркі, саўгасы сталі на шлях ператварэньня ў буйныя сацыялістычныя спэцыялізаваныя фабрыкі: мяса, сыру, малака, тлушчаў, збожжапрамысловага сырцу і г. д.

У выніку праведзенай сёлета спэцыялізацыі саўгасаў, яны атрымалі магчымасьць больш арганізавана і практычна падыходзіць да пастаўленых перад імі партыяй задач. Дзякуючы ўзросшай актыўнасьці саўгасных рабочых пры дапамозе ўсёй савецкай грамадзкасьці, саўгасы БССР у асноўным з посьпехам справіліся з веснавой і асеньняй пасеўнай кампаніяй. Плошча *саўгасаў узрасла амаль у два разы і зараз дасягае 300.000 га. Стада буйной рагатай жывёлы павялічылася на 100 проц., маладняку—на 200 проц. Саўгасы пашырылі свой трактарны парк у 5 раз.* Значна ўзрасло забесьпячэньне іх машынамі і іншымі сродкамі вытворчасьці.

Саўгасы па-бальшавіцку выканалі дырэктыву партыі і ўраду аб пашырэньні засеўнай плошчы. *Плян веснавой сяўбы перавыкананы на 9,5 проц., а асеньняй—па жыце—на 10 проц., а па пшаніцы—на 19 проц. У асноўным ажыцьцёўлена дырэктыва павышэньня ўраджайнасьці. Параўнальна з мінулым годам ураджайнасьць павышана на 25 проц.*

Саўгасы Беларусі прымалі актыўны ўдзел у калектывізацыі сельскай гаспадаркі. *За мінулую сельска-гаспадарчую кампанію імі арганізавана каля 300 калгасаў.* Вялікую агра-тэхнічную дапамогу саўгасы аказалі калгасам і бядняцка-серадняцкім гаспадаркам. Па адных толькі саўгасах Белсельтрэсту на капітальнае будаўніцтва было асыгнавана ў два разы больш, чым у 1925 годзе.

Кантрольныя лічбы на 1931 год па саўгасах Белсаўгастрэсту, пацьверджаныя ўрадам і складзеныя ў адпаведнасьці з пастановамі XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду ЎсеКП(б) аб далейшым шпаркім росьце і ўзмацненьні сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, прадугледжваюць рад адказьнейшых мерапрыемстваў. Іх выкананьне цалкам залежыць ад таго, наколькі саўгасы своечасова і сур'ёзна падрыхтуюцца да будучай с.-г. кампаніі.

*Толькі па адных саўгасах Белсаўгастрэсту мяркуецца выдаткаваць каля 20 мільёнаў руб.*

Аднэй з адказьнейшых задач, зьвязаных з ажыцьцяўленьнем пляну саўгаснага будаўніцтва на 1931 год, зьяўляецца падрыхтоўка да веснавой сяўбы. *Саўгасы Белсаўгастрэсту павінны павялічыць яравы клін на 50 проц. за лік поўнага асваеньня новых зямель, прычым значна павялічваецца ўдзельная вага кармавых сіласных і гародніх культур (на 100 проц.)* з аднача́совым зьмяншэньнем плошчы пад збожжавыя.



Трактарысткі за рамонтам трактара.

Пашырэньне плошчы пад больш працаёмкія культуры патрабуе значнага павялічэньня колькасьці пастаянных рабочых у саўгасе. Калі ўлічыць прарывы ў паасобных саўгасах, якія мелі месца з прычыны адсутнасьці сталых рабочых, дык сур'ёзнасьць праблемы ўкамплектаваньня становіцца відавочнай. *Саўгасам Белсаўгастрэсту патрэбна будзе 4000 новых рабочых.* Органы Наркампрацы, саюз сельгасрабочых, райкомы партыі і райвыканкомы павінны прыняць усе меры, каб неадкладна ўкамплектаваць саўгасы. Трэба зараз-жа распачаць вярбоўку рабочых з вясковых камсамольцаў, батракоў і беднаты, памятаючы, што неўкамплектаваньне саўгасаў ставіць іх пад пагрозу прарываў у часе сяўбы і ўборкі. Неабходна дабіцца, каб асноўныя працэсы вытворчасьці ў саўгасах выконваліся пастаянным кадрам рабочых.

*Перад саўгасамі стаіць задача поўнасьцю ачысьціць свой пасеўны матар'ял не пазьней 15 студзеня.* Збожжаачышчальныя машыны павінны працаваць *ў дзьве-тры зьмены.*

Поўная і своечасовая падрыхтоўка ўсіх сродкаў вытворчасьці да веснавой сяўбы (трактараў, сявярак, плугоў, боран і г. д.)—адна

з важнейшых задач саўгасаў. *Да 1-га красавіка рамонт павінен быць цалкам скончаны.* Трэба сур'ёзна падыйсьці да пытаньня поўнага забесьпячэньня трактарных рамонтных майстэрань запаснымі часткамі і зьнішчыць тыя агідныя адносіны да машын і да інвэнтару, якія, на жаль, яшчэ і зараз існуюць у радзе саўгасаў.

Саўгасы павінны сваячасова перавезьці на палі гной, прыняць усе меры, каб даставіць мінэральныя ўгнаеньні. За зімовы пэрыяд неабходна будаўнічы матар'ял падвезьці ў саўгасы, каб можна было з пачатку вясны адразу прыступіць да будаўніцтва.

Кожнаму саўгасу трэба ўжо зараз прыступіць да складаньня практычнага пляну веснавой сяўбы, шырока абгаварыўшы яго на вытворчых нарадах, рабочых сходах, давёўшы плян да кожнага рабочага, брыгадзіра трактарнай калёны.

Зусім зразумела, што на шляху ацыцьцяўленьня пастаўленых партыяй перад саўгасамі задач мы спаткаем труднасьці. Але гэтыя труднасьці будуць з посьпехам пераможаны ў сапраўды бальшавіцкай барацьбе за ўдарныя тэмпы ў будаўніцтве сацыялістычных фабрык мяса, малака і сырцу. Мабілізуючы рабочую масу саўгасаў на змаганьне з клясавым ворагам—кулаком і яго агентамі—правымі і „левымі“ апартуністымі, мы выканаем тыя вялізарныя задачы, якія высунула партыя перад савецкімі гаспадаркамі.

**Грэбенчык.**



На Беларускай станцыі Цэнтральнага інстытуту прыкладнай батанікі разьведзена сусьветная калекцыя лубіна, якая ідзе на ўгнаеньне беларускіх палёў. Агульны від поля лубіна.

# ВЯСЕНЬНЯЯ ПАСЕЎНАЯ КАМПАНІЯ І ПАДРЫХТОЎКА КАЛГАСНЫХ КАДРАЎ

СТВАРЭНЬНЕ КАЛГАСНЫХ КАДРАЎ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА АДНЭЙ З ВАЖНЕЙШЫХ УМОЎ ЗАМАЦАВАНЬНЯ КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

**(З пастановы XVI Зьезду ЎсеКП(б).**

XVI зьезд УсеКП(б) галоўнейшай задачай па далейшаму замацаваньню колектывізацыі сельскай гаспадаркі паставіў максымальна забясьпечыць калгасны рух неабходнымі кадрамі.

Значны прыліў у колгасы, які мы маем зараз на вёсцы (за апошні час організавалася каля 600 калгасаў, процант колектывізацыі па асобным раёнам павялічыўся да 34,2), высоўвае безадкладную задачу забясьпечыць гэты рост неабходнымі кадрамі.

Пытаньню падрыхтоўкі калгасных кадраў да веснавой пасеўнай кампаніі павінна быць удзелена асаблівая ўвага з боку партыйных і савецкіх організацый. І ў першую чаргу калгасна-коопэрацыйнай сыстэмы, бо тэрміны для падрыхтоўкі кадраў да пачатку веснавой пасеўнай кампаніі застаюцца невялікімі. Калі мы сваячасова гэта пытаньне не паставім, будзе вельмі цяжка правільна і пасьпяхова выканаць грандыёзныя задачы, якія перад намі паўстаюць па колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Мерапрыемствы па задавальненьню вялізарнейшых запатрабаваньняў у спэцыялістых сельскай гаспадаркі вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі, праведзеныя ў бягучым годзе (паскораныя і датэрміновыя выпускі ВНУ і Тэхнікумаў, скарачэньне тэрмінаў навучаньня, рэорганізацыя сыстэмы с.-г. асьветы і г. д.) толькі ў нязначнай ступені зьмякчылі кадровы крызіс, але ні ў якім разе не даюць падставы аслабіць вастрату і значэньне праблемы кадраў.

Яшчэ больш вастрэй стаіць пытаньне адносна кадраў масавай кваліфікацыі, неабходных калгаснаму будаўніцтву. У такіх, напрыклад, кадрах, як рахункаводаў для калгасаў, кіраўнікоў калгасаў, кіраўнікоў асобнымі галінамі сельскай гаспадаркі, організатараў працы і г. д. адчуваецца вельмі вялікі недахоп, які павінен быць безадкладна здаволены.

Гэтакае становішча, як амаль поўнае адсутнічаньне вучоту ў некаторых калгасах, забясьпечанасьць рахунковымі працаўнікамі толькі на 50 проц., поўнае адсутнічаньне кваліфікаваных працаўнікоў у калгасах па організацыі працы, зьяўляецца ў далейшым нецярпімым і павінны быць у ўдарным парадку зьнішчаны.

Сыстэма падрыхтоўкі масавых калгасных кадраў, шляхам правядзеньня каротка-тэрміновых курсаў (ад 1—3 мес.), існаваўшая да гэтага часу, цалкам і поўнасьцю сябе апраўдала. Гэтая сыстэма, як найбольш адпавядачая ўзятым партыяй тэмпам і запатрабаваньням калгаснага будаўніцтва (магчымасьць за кароткі тэрмін забясьпечыць калгасаў масавымі кадрамі-кіраўнікамі калгасаў, рахункаводамі, брыгадзірамі, кіраўнікамі асобных галін с.-г. і г. д.), павінна ў далейшым зьяўляцца асноўным, на якую трэба зьвярнуць галоўнейшую ўвагу.

Аднак гэта ні ў якай ступені не выключае іншыя мерапрыемствы, якія павінны ў сучасны момант заняць усю вагу нашых зямельных органаў і калгаснай сыстэмы. Такія мерапрыемствы, як завочнае навучаньне, політэхнізацыя школы Народнай асьветы і далейшыя мерапрыемствы ў галіне вылучэньня і г. д., павінна быць тымі шляхамі, праз якія трэба будзе рыхтаваць патрэбныя калгаснаму руху масавыя кадры.

Праведзеныя курсы ў 1929-30 г. побач з некаторымі недахопамі далі здавальняючыя вынікі.

Да пляну падрыхтоўкі масавых калгасных кадраў да вясеньняй пасеўнай кампаніі 1931 г. і правядзеньне курсаў, якія прадугледжваюць падрыхтоўку 20.000 калгасьнікаў і калгасьніц, трэба аднесьціся з усёй сур'ёзнасьцю, каб, улічваючы вопыт мінулага году, не паўтарыць памылкі ў бягучым годзе пры прывядзеньні курсаў.

Плян падрыхтоўкі масавых калгасных кадраў да вясеньняй пасеўкампаніі 1931 г. выражаецца ў наступнай форме:

| Назва курсаў | Лік слухачоў | Лік курсаў | Тэрмін навуч. | Хто праводзіць |
|---|---|---|---|---|
| Рахункаводаў | 3000 | 101 | м-ца | Райкалгассаюз |
| Кіраўнікоў калгаса | 3000 | 101 | 1 „ | |
| Арганізац. працы ў калгасах | 3000 | 101 | 1 „ | „ |
| Па прадзільн. культ. / Паляводаў з ухілам па кормаздабываньню | 3000 | 101 | 1 „ | „ |
| Па буйн. рагатай жывёле | 3000 | 101 | 1½ „ | „ |
| Па сьвінагадоўлі | 3000 | 101 | 1½ „ | „ |
| Садаводаў-гароднікаў | 400 | 8 | 2 „ | „ |
| Культ.-быт. работн. у буйных калгасах | 300 | 10 | 2 „ | „ |
| Птушкаводаў і трусаводаў | 100 | 2 | 1 „ | Калгасцэнтр |
| Пчаляроў | 50 | 1 | 1½ „ | |
| Рыбаводаў | 40 | 1 | 1½ „ | „ |
| Курсы па падрыхт. колгасн. і калгасьніц у рабфакі | 100 | 2 | 6 „ | „ |

Асноўную масу курсаў, прадугледжаных плянам (кіраўнікі калгасаў, рахункаводы, організатары працы ў калгасах, кіраўнік асобнымі галінамі сельскай гаспадаркі і г. д.) будуць праводзіць непасрэдна Райкалгассаюзы і Райкалгассэкцыі ў раёнах.

Правядзеньне курсаў у 1931 г. патрабуе шмат увагі і сапраўднага актыўнага ўдзелу з боку ўсіх раённых організацый і ў першую чаргу ад калгаснай сыстэмы. Асаблівасьць правядзеньня курсаў у гэтым годзе заключаецца ў тым, што ўся цяжкасьць кладзецца непасрэдна на Райкалгассаюзы і Райкалгассэкцыі, якія павінны самі ажыцьцявіць намечаны плян. Вось чаму, у мэтах больш пасьпяховага выкананьня пляну, Праўленьнем Белкалгасцэнтру прапанавана ўсім Райкалгассаюзам і Райкалгассэкцыям вылучыць спэцыяльную адказную асобу (члена Праўленьня), на якую павінна быць ускладзена ўся адказнасьць за справу падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў і правядзеньне намечаных курсваў.

Выходзячы з таго, што на Райкалгассаюзы ўскладаецца такая адказная задача, у якой яшчэ ня маецца дастатковага вопыту ў працы, пагэтаму, каб забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне курсаў перад Райкалгассаюзамі і Райкалгассэкцыямі, ставіцца рашуча задача, каб апошнія ўжо зараз правялі ўсю падрыхтоўчую працу да правядзеньня курсаў. Конкрэтна зараз павінны быць праведзены наступныя мерапрыемствы:

а) Павінны быць намечаны пункты організацыі курсаў, загадзя дагаварыўшыся з адпаведнымі організацыямі аб забясьпечаньні памяшканьнем. Асноўнымі апорнымі пунктамі павінны быць, у першую чаргу, ШКМ, калгасвучы, с.-г. тэхнікумы, саўгасы, МТС і буйныя калгасы. Вакол гэтых устаноў і прадпрыемстваў павінны організоўвацца курсы і наогул разгортвацца ўся праца па падрыхтоўцы калгасных кадраў, скарыстоўваючы іх настаўніцкія сілы, спэцыялістых, памяшканьні, лябараторыі, с.-г. машыны і інвэнтар, імкнучыяся ператварыць гэтыя пункты ў сталыя апорныя базы падрыхтоўкі калгасных кадраў.

б) Паклапаціцца падборам настаўніцкага складу ў пунктах, дзе намечаны курсы. У якасьці настаўнікаў павінны быць скарыстаны спэцыялістыя і работнікі зямельных аддзелаў калгасна-коопэрацыйнай сыстэмы, навучальных устаноў, школ і саўгасаў.

Справа ўкамплектаваньня курсаў зьяўляецца важнейшай умовай забясьпечваючай падрыхтоўкі такіх кадраў, якіх патрабуе разгортваючаеся соцыялістычнае будаўніцтва на вёсцы.

Вопыт мінулага году падрыхтоўкі масавых калгасных кадраў паказаў, што камплектаваньне курсаў праходзіла пры вельмі слабым удзеле самых калгасьнікаў. У вельмі рэдкіх выпадках кандыдатуры абгаварваліся на сходах калгасьнікаў. У большасьці кандыдатуры пасылаліся адзінаалічна старшынёй, альбо другім сябрам праўленьня калгасу. Вельмі часта пасылаліся людзі, зусім не падыходзячыя да ўмоў прыёму на курсы (пасылаліся зусім няпісьменныя, альбо скончыўшыя лікбез пасылаліся на курсы рахункаводаў і г. д.). У выніку чаго скончылі курсы слаба 15 проц. Дзякуючы няўважлівых адносін, на курсы кіраўнікоў калгасаў пападаў кулацкі элемэнт, якіх прыходзілася ў часе курсаў выключаць. Гэтым і тлумачыцца, што з скончыўшых курсы кіраўнікоў калгасаў толькі 60 проц. працуюць старшынямі, альбо членамі Праўленьня, некаторую частку з скончыўшых курсы кіраўнікоў калгасаў пасьля сканчэньня калгасьнікі і групы беднаты адмовіліся абраць іх кіраўнікамі таму, што яны скомпромэнтавалі сябе на працы.

Выходзячы з гэтага, зусім правільна рашэньне Праўленьня Белкалгасцэнтру, якое наступным чынам рэглямэнтуе парадак адбору і камплектаваньня курсаў.

Па-першае—курсы павінны камплектавацца пераважна з калгасьнікаў і калгасьніц; па-другое—на курсы трэба вылучаць у першую чаргу батракоў, беднякоў, лепшых серадпякоў-калгасьнікаў, праявіўшых сябе ў соц. спаборніцтве і ўдарніцтве, паказаўшых прыклады прац. дысцыпліны на калгаснай рабоце.

Парадак укамплектаваньня павінен быць наступны:

Кандыдатуры павінны вызначацца Праўленьнем калгасаў і пасьля павінны абавязкова абгаварвацца на агульных сходах калгасьнікаў, на брыгадах, альбо на вытворчых нарадах. Работа па адбору павінна насіць масавы характар, дабіваючыся таго, каб самі калгасьнікі вылучылі з свайго боку кандыдатаў на курсы. Пры камплектаваньні курсаў павінна быць удзелена асаблівая ўвага большаму ўцягненьню жанчын.

У зьвязку з значнай колькасьцю нацыянальных калгасаў і адсутнічаньня ў іх неабходных кадраў, трэба забясьпечыць у гэтым годзэ ўсе курсах слухачамі з нацыянальных калгасаў.

На шляхох ажыцьцяўленьня пляну падрыхтоўкі калгасных кадраў сустрэнемся з цэлым шэрагам цяжкасьцяй, якія павінны і будуць абавязкова пераможаны. Галоўнейшымі з іх зьяўляюцца: недастатковае забясьпечаньне курсаў сродкамі, і настаўніцкім пэрсаналам. Што датычыцца пытаньня сродкаў, то яна вырашаецца наступным чынам: у асноўным курсы праводзяцца на сродках мясцовага бюджэту, г. зн., што на вучэбна-гаспадарчую частку выдаткаў утрыманьня курсаў будуць адпускацца сродкі Райвыканкомамі з крыніц, зацьверджаных яму па мясцоваму бюджэту. Зразумела, што гэта не выключае і той дапамогі (датацыі), якая павінна быць аказана з боку дзяржаўных і коопэрацыйных організацый, але зараз асноўнай задачай Райкалгассаюзаў павінна заключацца ў тым, каб курсы былі-б абавязкова забясьпечаны сродкамі і ні ў якім разе не чакаць „авось падашлюць з цэнтра".

Вось чаму ў гэтым годзе ў адзнаку ад мінулага году ў правядзеньні курсаў будуць матар'яльна ўдзельнічаць самі калгасы. Канкрэтна гэта павінна заключацца ў тым, што калгасы павінны будуць утрымаць сваіх калгасьнікаў, шляхам выдачы сродкаў грашыма, альбо натурай на харчаваньне і аплаціць праезд. Ад гэтага зразумела матар'яльнае становішча курсантаў ні ў якім разе не павінна ўхудшацца, а, наадварот, трэба ствараць курсантам спрыяючыя ўмовы і каб гэта не адбівалася на прадукцыўнасьць працы курсаў.

Райкалгассаюзы павінны на мясцох пры дапамозе спажывецкіх коопэрацый організаваць грамадзкае харчаваньне, скарыстоўваючы маючыяся сталоўкі ў раёне. Трэба адзначыць, што навучальная нагрузка курсантаў (6 гад. у дзень) зьяўляецца зусім невялікай і пагэтаму трэба дабіцца, каб гэтыя гадзіны выкарыстоўвалі-б як магчыма рацыянальней і мэтазгодней, дабіцца лепшых вынікаў усёй курсавой працы. Трэба запамятаць, што тэрміны курсаў устаноўлены невялікія. Згодна каляндарнага пляну правядзеньне курсаў у гэтым годзе мяркуецца праводзіць наступным чынам:

| №№ п.п. | Назва курсаў | Тэрмін навуч. | Працягл. навуч. | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Пачатак заняткаў | Канец заняткаў |
| 1 | Рахункаводаў | 2 м. | 1-XII | 1-II |
| 2 | Кіраўнікоў калгасаў | 1 м. | 15-XII | 15-I |
| 3 | Па буйн. раг. жывёле | $1^1/_2$ | 1-I | 15-II |
| 4 | Організ. працы ў калгасах | 1 м. | 15-I | 15-II |
| 5 | Па паляводзтву з ухілам па кармаздабываньню | 1 м. | 1-II | 1-III |
| 6 | Па сьвінагадоўлі | $1^1/_2$ | 15-II | 1-IV |
| 7 | Па прадзільн. культурам | 1 м. | 1-II | 1 III |
| 8 | Культвыработн. для буйн. калгасаў | 2 м. | 15-II | 15 IV |
| 9 | Садова-городн. | 2 м. | 1-III | 1-V |
| 10 | Па птушаводзтву і кролікаводзтву | $1^1/_2$ | 15-III | 1-V |
| 11 | Па пчаляводзтву | $1^1/_2$ м. | 1-IV | 15-V |
| 12 | Па рыбаводзтву | $1^1/_2$ м. | 15-V | 1-VI |
| 13 | Курсы па падрыхтоўцы калгасьнікаў і калгасьніц на рабфакі | 6 м. | 1-XII | 1-VI |

Як відаць з каляндарнага пляну, многія курсы будуць праводзіцца паралельна, пагэтаму патрэбна будзе мабілізаваць увагу і сілы ўсіх мясцовых грамадзкіх арганізацый на абавязковае правядзеньне намечанай колькасьці курсаў у раёне.

У зьвязку з гэтым паўстае пытаньне аб забясьпечанасьці курсаў неабходнымі выкладчыкамі. Адказам на гэтае запытаньне зьяўляецца наступнае: для правядзеньня такога важнейшага мерапрыемства, як падрыхтоўка калгасных кадраў да вясеньняй пасяўной кампаніі павінна быць накіравана ўвага ўсіх раённых арганізацый і ў першую чаргу Райзо, калгасна-коопэрацыйнай сыстэмы спажывецкай коопэрацыі і г. д. Уся агранамічная сіла гэтых устаноў і арганізацый павінна на час правядзеньня курсаў быць мабілізавана для выкладаньня на курсах.

Павінны быць скарыстаны настаўнікі і работнікі РК КП(б)Б і КСМ, школ і г. д. Вельмі пажадана і нават неабходна, каб грамадзка-палітычныя дысцыпліны выкладаліся адказнымі работнікамі раённых арганізацый.

Вельмі шырока павінны быць скарыстаны навуковыя і настаўніцкія сілы навучальных установ вышэйшых і сярэдніх.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на вучэбна-мэтодычнае кіраўніцтва курсамі, бо ад гэтага залежыць якасьць курсавой працы.

Галоўнейшымі запатрабаваньнямі ў гэтай галіне павінны быць: падбор адпаведных лектароў, як у сэнсе іх дастатковай падрыхтаванасьці, гэтак і палітычнай вытрыманасьці і якасьць той продукцыі, якую курсанты павінны атрымаць на курсах, інакш кажучы, гэта адзначае правільная прапрацоўка тых пытаньняў, на якія партыя і савецкая ўлада заастрае ўвагу

Вось чаму мы лічым, што побач з арганізацыйна-гаспадарчымі мерапрыемствамі, якія неабходна правесьці (стварэньне належных умоў курсантам), у вучобе вельмі важнай зьяўляецца вучэбная частка. Трэба дабіцца, каб курсы працавалі па раней выпрацаванаму пляну, г. зн., што ўсе павінны быць раней прадугледжаны. Абавязкова павінны быць складзены расьпісаньне заняткаў, неабходна паставіць на належную вышыню дысцыпліну на курсах, кожны курсант павінен ведаць, што ад яго патрабуе калгас, які яго накіраваў на курсы, справаздачу аб посьпехах вучобы.

Пры сур'ёзнай увагі з боку ўсіх раённых арганізацый да правядзеньня курсаў пэўна даб'емся станоўчых вынікаў і такім чынам падрыхтуем патрэбныя нам калгасныя кадры да другой бальшавіцкай веснавой с.-г. кампаніі.

**Е. Новік.**

**РАБСЕЛЬКОРЫ! рэдакцыя часопісу „Шляхі Калектывізацыі“ чакае ад вас матар'ялу аб тым, што робіцца калгасамі да веснавой сяўбы.**

# АДЗІНААСОБНІК АГІТУЕ ЗА КАЛГАС

„Цяпер ужо ня мы адны, кваліфікаваныя бальшавікі, а самі сяляне з калгасаў, дзесяткі тысяч сялян арганізатараў і агітатараў калгаснай справы будуць несьці наперад сьцяг калектывізацыі".

(Сталін).

Практыка арганізацыі і работы вярбовачных камісій і асабліва ініцыятыўных груп у арганізацыі калгасаў зьяўляецца надзвычайна цікавай і важнай. Яна набывае зараз,—у сувязі з дырэктывай партыі аб калектывізацыі 45 процантаў усіх сялянскіх двароў у БССР на працягу трэцяга году пяцігодкі,—асаблівае значэньне.

Ініцыятыўныя групы становяцца апорнымі пунктамі суцэльнай калектывізацыі.

Аб гэтым сьведчаць вынікі работы вярбовачных камісій і ініцыятыўных груп, створаных у шэрагу раёнаў БССР.

Такія формы работы за колектывізацыю, як арганізацыя ініцыятыўных груп і вярбовачных камісій, пачынаюць прымаць шырокі масавы размах. Па вестках з 55 раёнаў арганізавана 488 ініцыятыўных груп і 473 вярбовачныя камісіі. Па Асіпавіцкім раёне, напрыклад, арганізавана 27 ініцыятыўных груп, па Глускім—17, па Жлобінскім—9, па Уваравіцкім—18, па Хойніцкім—12, па Рэчыцкім—10 і інш.

Вярбовачныя камісіі, як правіла, арганізуюцца з калгаснага актыву, з найбольш аўтарытэтных калгасьнікаў, якія аказваюць уплыў на адзінаасобнікаў. Вярбоўшчыкі ставяць сваёй задачай — растлумачэньне посьпехаў і дасягненьняў калгасаў, пастаноў XVI партзьезду па пытаньнях калектывізацыі, ільгот калгасу і статуту.

Вялікі вопыт у арганізацыі і рабоце ініцыятыўных груп мае Малевіцкая партыйная ячэйка (Жлобінскі раён). У часе бальшавіцкай сяўбы створаныя ячэйкай дзьве групы вярбоўшчыкаў дабіліся арганізацыі двух ініцыятыўных груп: у вёсках—Заводная і Карма.

Пад уплывам посьпеху калгасу ў правядзеньні сяўбы ініцыятыўная група вёскі Заводная перарасла ў калгас. Усе адзінаасобнікі, арганізаваныя ў ініцыятыўную групу, выехалі на асеньнюю сяўбу калектыўна. Да іх далучылася яшчэ 18 гаспадарак. У выніку калектыўнай вытворчай працы вырас новы калгас.

Асаблівую цікавасьць набывае практыка ініцыятыўнай групы вёскі Карма. Пасьля растлумачэньня пастаноў 16 зьезду УсеКП(б) і 13 зьезду КП(б)Б, пад уплывам калгасьнікаў калгасу „Чырвоны партызан", ініцыятыўная група ў ліку 6 гаспадарак была прыцягнута да працы ў калгас па ўборцы ўраджаю. Адзінаасобнікі, працуючы ў колгасе, азнаёміліся з яго работай, з дасягненьнямі і недахопамі. Ударная работа калгасьнікаў заахвоціла гэтых адзінаасобнікаў. Яны дапамагалі ліквідаваць прарывы ў колгасе і зьнішчыць маючыяся недахопы.

Гэтыя адзінаасобнікі, папрацаваўшы ў калгасе, яшчэ больш пераканаліся ў перавагах калектыўнай гаспадаркі. Яны ўбачылі, што калгасьнікі маюць прыбытак у два разы больш адзінаасобніка. Пасьля звароту з калгасу адзінаасобнікі расказалі сваім аднавяскоўцам кармянцам пра посьпехі і барацьбу калгасьнікаў.

Учарашнія адзінаасобнікі, такім чынам, сталі арганізатарамі і агітатарамі калгаснага руху. Яны разьбілі кулацкую агітацыю аб „гультаёх“, аб „пайку“ і інш.

Вынікі аказаліся бліскучымі. У часе ворыва на зяб ініцыятыўная група вёскі Карма арганізавалася ў калгас. Новыя калгасьнікі вышлі на ворыва зяблева ў адну баразну.

І так у Малевіцкім сельсавеце дзьве ініцыятыўныя групы, якія былі арганізаваны вярбоўшчыкамі калгасу „Чырвоны партызан“, перарасьлі ў калгасы. Два новых калгасы вырасьлі па ініцыятыве саміх калгасьнікаў і адзінаасобнікаў. Гэтыя новыя калгасы, у сваю чаргу, вылучылі ўжо сваіх вярбоўшчыкаў, якія разам з калгасьнікамі „Чырвонага партызану“ пад кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі ўпарта змагаюцца за калгасны прыліў, за калектывізацыю ўсіх вёсак Малевіцкага сельсавету.

Усё гэта зьяўляецца вынікам упартай работы малевіцкіх бальшавікоў. Партыйная ячэйка здолела злучыць выкананьне гаспадарчых задач з арганізацыяй новага калгаснага прыліву. Яна стала на чале калгаснага руху.

Аналёгічная работа па стварэньні ініцыятыўных груп праведзена вярбоўшчыкамі калгасу „Рухавік“ (Няпчынскі сельсавет, Уваравіцкі раён). Пад кіраўніцтвам вопытнага рулявога—25-тысячніка—таварыша Протчанка (старшыня калгасу „Рухавік“), вярбовачныя групы растлумачылі адзінаасобнікам вынікі работы, парадак разьмеркаваньня ўраджаю і прыбытку ў калгасе. У пасёлках „Зара“ і „Чырвоны сьвет“ (дзе яшчэ ўлетку з выхадцаў былі створаны ініцыятыўныя групы) вярбоўшчыкі—калгасьнікі правялі сходы адзінаасобнікаў. На сходах яны растлумачылі сваю арытмэтыку, расказалі пра вынікі работы калгасу. Калгасьнікі давялі адзінаасобнікам, што яны на 68 калгасных двароў маюць 103 тысячы рублёў валавога прыбытку (гэта больш паўтары тысячы рублёў на кожную калгасную гаспадарку!) Аказалася, што прыбытак адзінаасобніка гэтай мясцовасьці ў тры разы менш чым прыбытак калгасьніка. Адзінаасобнікі пераканаліся, што калгасьнікі забясьпечаны ў выстарчальнай колькасьці хлебам, бульбай і іншымі прадуктамі да новага ўраджаю.

Свой плян па збожжазагатоўках калгасьнікі перавыканалі: па жыце—на 150 процантаў, па аўсу—350 проц., па ільну—160 проц. Сотні тон бульбы застаўлены калгасам для адкорму сьвіней.

У выніку—шмат якія адзінаасобнікі пачалі арганізоўваць ініцыятыўныя групы.

Групы расьлі.

Ужо ў дні сьвяткаваньня 13-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі яны перарасьлі ў калгасы. У калгасы цалкам уступілі пасёлкі „Зара“ і „Чырвоны сьвет“. На зяблевае ворыва яны ўжо аралі ў адну баразну.

На гэтым новыя калгасьнікі ня спыніліся. Яны, разам з адзінаасобнікамі, новымі вярбоўшчыкамі калгасу „Рухавік“, пад кіраўніцтвам 25-тысячніка таварыша Протчанка, уключыліся ў барацьбу за новага калгасьніка, вядучы ўпартую барацьбу з кулакамі.

Асабліва праявілі сябе ў барацьбе за калгас адзінаасобнікі таварышы Цуранкоў К. А., браты Максімёнкі, Кунязеляў і інш. Яны зрабілі абход адзінаасобных двароў; дабіліся ўступленьня 15 гаспадарак у калгас. Вядзецца работа па падрыхтоўцы ўсяго Пянчынскага сельсавету да суцэльнай калектывізацыі на працягу 3-га году пяцігодкі.

Такую-ж практыку ўжывалі і члены калгасу Энгельса, якія пад кіраўніцтвам партыйнай калгаснай ячэйкі ператварылі ініцыятыўныя групы ў новыя калгасы. Паасобныя калгасьнікі-актывістыя з вярбоўшчыкаў запрашаюць да сябе адзінаасобнікаў. У прыяцельскай гутарцы расказваюць пра жыцьцё калгасу.

## Партячэйка—штаб калгаснага руху

„Упяршыню пасьля стагодзьдзяў працы на чужых, паднявоенае працы на эксплёататараў, зьяўляецца мажлівасьць работы на сябе і пры тым работы, якая апіраецца на ўсе заваёвы тэхнікі і культуры...

... Арганізацыйных талентаў у сялянства і рабочай клясы шмат. І гэтыя таленты толькі-толькі пачынаюць уяўляць сабе, прачынаюцца, цягнуцца да жывое, творчае, вялікае працы, брацца самастойна за будаўніцтва сацыялістычнай грамады“.

**(Ленін)**

Майская партячэйка, Жлобінскага раёну, арганізавала ініцыятыўныя групы ў вёсках Малае Казловічы, Майскае, Антонаўка, Дзяніскавічы 1-я і Дзяніскавічы 2-я. Ініцыятыўнымі групамі ахоплена звыш 40 гаспадарак адзінаасобнікаў.

Гэтыя будучыя калгасьнікі актыўна працавалі ў калгасе „Расьсвет-Пераможца“ па ўборцы бульбы і па малацьбе. Адна ініцыятыўная група з вёскі Дзяніскавічы 1-я і ў ліку 7 адзінаасобнікаў падала заяву аб прыёме іх у калгас.

— Няма цярпеньня чакаць, пакуль уся вёска пойдзе,—так заявіў адзін адзінаасобнік з гэтай групы. У сваёй заяве яны так і пішуць:

„Прымеце нас у калгас... Мы хочам разам з вамі будаваць сацыялізм. Мы хочам уключыцца ў сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Мы дапаможам выканаць пяцігодку ў чатыры гады“...

Калгасьнікі „Паросткі сацыялізму“ арганізавалі вярбовачныя камісіі, пайшлі па вёсках Падалескага сельсавету са справаздачай калгасу. У вёсцы Падалесьсе яны арганізавалі ініцыятыўную групу, якая разраслася да 32 гаспадароў. На сёнешні дзень гэтыя 32 адзінаасобнікі ступілі ў калгас „Паростак сацыялізму“.

Дзякуючы разгорнутай рабоце ў Азярышчанскім сельсавеце арганізаваўся новы калгас імя тав. Варашылава.

Беднякі-адзінаасобнікі, арганізаваўшы ініцыятыўную групу пад кіраўніцтвам камітэту ўзаемадапамогі, абвясьцілі сябе ўдарнікамі. Яны арганізавалі ўдарную брыгаду, засеялі і ўбралі хлеб з былой кулацкай зямлі. Ад платы за работу яны адмовіліся.

Кулакі прымалі самыя рашучыя меры, каб разагнаць гэтую групу з 26 беднякоў. Былі ўжыты ўсе сродкі барацьбы: пагрозы, патрава, гарэлка і нават подкуп асобных беднякоў. Але ініцыятыўная група трымалася стойка. Асабліва праявіў сябе бядняк, старэйшы брыгадзір, таварыш Коршак Кастусь. Дзякуючы яго энэргіі і энтузіязму ініцыятыўная група не распалася. Цікава адзначыць, што гэта група арганізавала чырвоны абоз і здала ўсе свае лішкі хлеба дзяржаве.

Асобныя калгасы Жлобіншчыны маюць вялікую практыку па арганізацыі новага калгаснага прыліву. Яны арганізуюць групы вярбоўшчыкаў. Апошнія ствараюць ініцыятыўныя групы, якія ў сваю чаргу перарастаюць у калгасы.

Яшчэ месяц назад газэта „Зьвязда“ паведамляла аб ганебным зьявішчы ў калгасе „Чырвоны баец“, які адгарадзіўся ад адзінаасобнікаў і нават адмаўляся ад прыёму адзінаасобнікаў у калгас. І ўсё гэта рабілася на вачох мормальскай партыйнай ячэйкі. З арганізацыяй груп вярбоўшчыкаў з калгасьнікаў на чале з мормальскімі камуністымі, якія, урэшце, сталі на чале калгаснага руху, справа каранным чынам зьмянілася. На працягу апошняга месяцу амаль увесь хутар Работка ўліўся ў калгас „Чырвоны баец“ (уступіла 12 гаспадарак). Акрамя таго, у калгас „Чырвоны Кастрычнік“ уступіла 7 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У чым сакрэт такога посьпеху?

Справа ў тым, што з паяўленьнем сыгналаў „Зьвязды“ мормальскія камуністыя, пад кіраўніцтвам „25-тысячніка“—тав. Галавачэнка—сакратара ячэйкі—тав. Ягорчанка, па-бальшавіцку прызналі свае памылкі і пачалі іх энэргічна выпраўляць. Ячэйка стала на чале калгаснага прыліву, павярнулася да яго тварам.

На дасягнутых посьпехах ячэйка ня спыняецца. Гэтымі днямі вярбоўшчыкі калгасаў „Чырвоны баец“ і „Чырвоны Кастрычнік“, у вёсцы Істопкі, Мормальскага сельсавету, арганізавалі новую ініцыятыўную групу, у якую ўступіла 9 гаспадарак. Зараз праводзіцца работа па арганізацыі калгасаў у гэтай вёсцы.

Такім чынам, мормальская партячэйка зараз б'ецца за арганізацыю новага калгаснага прыліву, паказваючы прыклад другім партячэйкам, як трэба змагацца за калектывізацыю.

Члены калгасу „Вэкер“, Уваравіцкага раёну, арганізавалі групы вярбоўшчыкаў у калгасы. Вярбоўшчыкі ў вёсках Змычка і Альхоўка правялі справаздачы перад адзінаасобнікамі, дзе расказалі аб сваіх дасягненьнях і парадку разьмеркаваньня ўраджаю. Вярбоўшчыкі калгасу „Вэкер“ арганізавалі ў вёсках Барвёнаўка, Змычка, Рудня-Альхоўка ініцыятыўныя групы па арганізацыі калгасу.

У ініцыятыўныя групы ўступіла 48 гаспадарак адзінаасобнікаў.

Сотні ініцыятыўных груп, пад уплывам посьпехаў перадавых калгасаў, перарасьлі ў калгасы. Зусім бясспрэчна роля ячэек КП(б)Б, як баявых штабаў калгаснага прыліву.

Там, дзе партячэйкі сталі на чале калгаснага прыліву, арганізавалі папулярызацыю посьпехаў калгасаў—ствараюцца шматлікія ініцыятыўныя групы, новыя калгасы. Там-жа, дзе партячэйкі стаяць у баку, праяўляюць апартуністычную бязьдзейнасьць, там адчуваецца ўплыў кулака, які імкнецца затрымаць калектывізацыю. У такіх мясцох ініцыятыва мас праходзіць праз галавы партыйных ячэек. Групы вярбоўшчыкаў і ініцыятыўныя групы арганізуюцца там без кіраўніцтва партячэек. К прыкладу можна прывесьці Чабатовіцкую ячэйку, Буда-Кашалёўскую і інш.

Ініцыятыўныя групы і вярбовачныя камісіі, як форма арганізацыі калгаснага прыліву, цалкам сябе апраўдалі. Гэту ініцыятыву калгасьнікаў і лепшых адзінаасобнікаў беднякоў і сераднякоў трэба ўсямерна падтрымаць. Па тых паасобных партарганізацыях, якія ігнаруюць гэты магутны рух, праяўляючы праваапартуністычную недаацэнку значэньня работы ў галіне арганізацыі калгаснага прыліву і аднэй з лепшых форм гэтай работы—ініцыятыўных груп і вярбовачных камісій,—трэба ўдарыць самым рашучым чынам.

З прыведзеных вышэй прыкладаў можна бачыць, што ініцыятыўныя групы гэта вельмі важная ўмова калектывізацыі.

**Гарбуноў Ц. і Салдаценка Е.**




ДА КАНЦА ПЯЦІГОДКІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СССР У АСНОЎНЫМ ПАВІННА БЫЦЬ СКОНЧАНА. **(Сталін).**

# ВЫТВОРЧЫ ПЛЯН КАЛГАСУ „ВЭКЕР" НА 1931 ГАСПАДАРЧЫ ГОД

Ня ўсе калгасы Беларускае Рэспублікі могуць пахваліцца тым, што яны прыступілі да плянавага будаўніцтва калгаснае гаспадаркі. Аднак, асобныя калгасы маюць вялікія посьпехі ў справе плянавага будаўніцтва калгасаў. Так, калгасы Вэкер, Энгельса і „Расьсьвет-пераможац" ужо склалі вытворчыя пляны на 1931 гаспадарчы год. Калгасьнікі вэкерцы першымі ў БССР адгукнуліся на адозву ЦК УсеКП(б) ад 3-га верасьня і рашуча ўключыліся ў барацьбу па ліквідацыі прарываў у іх калгасе (сяўба, будаўніцтва, зяблева).

У выніку сапраўды баявых тэмпаў работы калгасьнікі дабіліся перавыкананьня пляну асеньняй сяўбы на 50%, скончылі пабудову вялікага кароўніку і сьвінарніку, скончылі зябліва, выканалі плян сіласаваньня, своечасова ўбралі бульбу і інш.

У „Дзень ударніка" калгасьнікі заклалі пачатак распрацоўкі промфінпляну, аб якім мы сёньня друкуем. 22 калгасьнікі, арганізаваныя ў групу плянавікоў (групы арганізаваны па асобным галінам гаспадаркі), пад кіраўніцтвам агранома Вільчынскага, самі складалі гэты плян. Гэта—плян саміх калгасьнікаў. Плян зьяўляецца вялікім крокам у арганізацыі працы ў калгасах.

Сваім плянам калгасьнікі прадугледжваюць рост свайго калгасу ня менш, як на 15 гаспадарак і калектывізацыю большасьці вёсак Чабаравіцкага с/савету. Між тым, гэта задача будзе перавыканана ў некалькі разоў. Аб гэтым сьведчаць першыя посьпехі калгасаў па калектывізацыі.

Апошнія тры месяцы кастрычнік—сьнежань—калгасьнікі абвясьцілі ўдарным кварталам. У гэты асобны ўдарны квартал калгасьнікі вызначылі наступныя работы: скончыць сяўбу жыта, копку бульбы, уборку караняплодаў, апрацоўку ільну, пабелку саду; да кастрычніка скончыць пабудову сьвінарніку і скотнага двара. Вызначана ў гэты пэрыяд звозку ўсяго сена, догляд за жывёлай і інш.

На гэты пэрыяд вызначана адпаведная колькасьць працоўных дзён і тэрмін выкананьня ўсіх работ.

## Каляндар калгасьніка на 1931 год

Увесь гаспадарчы год разьбіт па адпаведных пэрыядах, зыходзячы з тэрміновасьці работ і ліку рабочай і цягавай сілы. Калгасьнікі вызначылі наступныя пэрыяды:

| | | |
|---|---|---|
| Першы пэрыяд— | з 1-га студзеня па 10 красавіка 1931 г. | |
| Другі „ | з 10 красавіка па 1 чэрвеня | „ |
| Трэці „ | з 1 чэрвеня па 15 ліпеня | „ |
| Чацьверты „ | з 15 ліпеня па 15 кастрычніка | „ |
| Пяты „ | з 15 кастрычніка па 31 сьнежня | „ |

*У першым пэрыядзе* (з 10 красавіка па 1 чэрвеня) калгасьнікі арганізавалі ўсю работу па догляду за жывёлай: за сьвіньнямі, рагатай жывёлай, па догляду коняй, падвозка сена і канцэнтраваных кармоў. У гэты час калгасьнікі вызначылі падвозку і загатоўку будаўнічых матар'ялаў, патрэбных для вялікага будаўніцтва, якое будзе праводзіцца ўвесну 1931 г.

*У другім пэрыядзе* (з 10 красавіка па 1 чэрвеня) вызначана работа (для чаго ўся рабочая сіла разьбіта па адпаведных брыгадах) па падрыхтоўцы зямлі да пасеву (баранаваньне, успашка, вывазка гною і інш.). У гэты-ж пэрыяд праводзіцца будаўніцтва новага кароўніка на 70 галоў, 2-х жыльлёвых дамоў і інш.

*Трэці пэрыяд* (з 1 чэрвеня па 15 ліпеня) прадугледжвае ўзьняцьце раньняга папару, касьба сенажаці, полка яравых культур, падстаноўка падборак у садзе і шмат інш.

*Чацьверты пэрыяд* ( з 15 ліпеня па 15 кастрычніка) зьяўляецца адным з адказьнейшых пэрыядаў—гэта ўборка ўраджаю, сенажаці, абмалот ураджаю, уборка яблык, пасеў жыта і г. д.

Увесь гэты пэрыяд калгасьнікі будуць працаваць з вялікай напружанасьцю нават у дзьве зьмены. У гэты пэрыяд аплата калгасьнікаў павялічваецца да 30% і вызначана адпаведная колькасьць працоўных дзён (25) у месяц. І, ня гледзячы на вялікі недахват рабочай сілы, дзякуючы добрай арганізацыі працы (брыгады, нормы выпрацоўкі, тарыфікацыя), калгасьнікі з усімі работамі справяцца выключна сваімі сіламі.

Найбольш лёгкім у адносінах напружаньня работы зьяўляецца асеньня-зімовы пэрыяд (з 15 кастрычніка па 31 сьнежня 1931 г.).

Гэты пэрыяд прадугледжвае ўборку бульбы, упакоўку і адпраўку яблык, падрыхтоўку да зімы і нагляд за жывёлай. Вялізарным фактарам прамфінпляну калгасу „Вэкер“ яшчэ зьяўляецца і тое, што да гэтага пятага пэрыяду калгасьнікі вызначылі падрыхтоўку ўсяго Чабатавіцкага сельсавету да пераходу яго ў калгас. Усяму гэтаму будзе дапамагаць кожны посьпех калгасу „Вэкер“ у барацьбе за калгасную гаспадарку.

### Арганізацыя працы

Вопыт мінулага году шмат чаму навучыў калгасьнікаў. Вось чаму для выкананьня вызначаных плянам задач калгасьнікі патрабуюць ад кіраўнікоў выкананьня ўсіх задач, выстаўленых у пляне. Апрача кантролю над кіраўнікамі калгасу, калгасьнікі абавязуюцца ўсе работы выконваць у свой час і біцца за ажыцьцяўленьне гэтага пляну. Зрыў-

шчыкаў норм выпрацоўкі—браць на грамадзкі буксір, вызначаць ім паасобную працу (нормы) і інш.

Вопыт гэтага году паказаў неабходнасьць арганізацыі адпаведных брыгад, на чале з адказнымі брыгадзірамі. Гэтая арганізацыя будзе праведзена ў 1931 годзе.

З кастрычніка г. г. уведзена разьмеркаваньне дэфіцытных тавараў па колькасьці і якасьці работы ў калгасе. Вытворчая нарада, якая бязьдзейнічала ў гэтым годзе, ужо рэарганізавана ў „сквозную“ брыгаду, якая будзе кіраваць і дапамагаць усім астатнім брыгадам. У часе малацьбы і ўборкі ўводзіцца двухзьменная праца.

Апрача ўсіх работ, якія будуць праводзіцца ў сваёй гаспадарцы, калгасьнікі вызначылі вялікую дапамогу беднаце ваколічных вёсак і пасёлкаў, конямі, рабочай сілай і машынамі.

— Усе дасягненьні калгасу павінны быць вядомы ўсім адзінаасобнікам нашага сельсавету,—заявілі плянавікі, складаючы свой прамфінплян. Для азнаямленьня з дасягненьнямі калгасу калгасьнікі прыцягваюць актыў адзінаасобнікаў, якіх прыцягваюць да азнаямленьня з работай калгасу. Многія адзінаасобнікі (Кухарэнка, Карлоўскі, Ігнацікаў, Красьнякоў і інш.) ужо цяпер, пасьля азнаямленьня з работай калгасу і парадкам разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў, дапамагаюць калгасьнікам у правядзеньні калектывізацыі ў бліжэйшых вёсках.

## Ураджайнасьць

Ужо ў гэтым годзе калгасьнікі маюць у два разы вышэйшы ўраджай, чым у адзінаасобнікаў. Аднак, у пляне на 1931 г. яны прадугледжваюць поўнае выкананьне агра-зоамінімуму. Уводзіцца дзевяціпольны севазварот.

Пасеў жыта і аўса праводзіцца выключна гатунковым насеньнем. Выкананьне гэтых задач дае наступны ўраджай: жыта з 11 *га* ў гэтым годзе дае ўраджай 12 *цэнт.* у наступным годзе; авёс—з 10 да 13 *ц*; грэчка—замест 8—$8^1/_2$; віка-насеньне—замест 6,5—8,5; бульба—замест 125—155 і г. д. Трэба сказаць, што ўраджай адзінаасобнікаў у наступным годзе будзе амаль у два разы ніжэй, чым ураджай у калгасе.

## Жывёлагадоўля

Калгас мае вялікія магчымасьці да разьвядзеньня жывёлагадоўлі. Для гэтага ёсьць адпаведная база—каля 150 *га* сенажаці, пашырэньне плошчы пад канюшыну (каля 40 *га*), караньплоды ды інш. Малочнае стада вырашана давесьці да 100 галоў, замест 75.

У галіне разьвіцьця сьвінагадоўлі калгасьнікамі ўжо зроблена шмат: пабудаваны сьвінарнік на 120 галоў, сьвіное стада даведзена да 70 шт., ёсьць свой кваліфікаваны сьвінавод і інш.

Да 1-га студзеня 1931 г. сьвіное стада даводзіцца ня менш, як да 100 галоў. У канцы 1931 г. гэтае стада будзе налічваць 1.000 шт., з якіх ня менш 200 будзе адкормлена на бэкон для здачы пралетарскім цэнтрам. Такім чынам, у сваім пляне калгасьнікі-вэкерцы значнае месца адвялі пытаньню рабочага забесьпячэньня.

Апрача гэтага, яны мяркуюць здаць дзяржаве (у 1931 г.) 2.000 пудоў збожжа, 8.000 пудоў бульбы, 60.000 літраў малака (замест 40.000

у гэтым годзе), 400 сьвіней, 15.000 пудоў яблык, 2.000 пудоў гароднiны i iнш. Усяго калгас мяркуе здаць дзяржаве на 62.200 руб.

Для ўтрыманьня малочнага стада i сьвіней у калгасе ня хопіць кармоў у наступнай колькасьці: 150 *ц* сiласу, 227 *ц* вотрубей, 147 *ц* жмыхi i 101 *ц* аўса. Гэтыя кармы набываюцца з раймалжывсаюзаў за зданае малако i закантрактаваных на бэкон сьвіней.

## Іншыя галіны гаспадаркі

У калгасе ёсьць пчалярная пасека, якая ў наступным годзе ператвараецца ў прамысловую галіну. Лік пчол з 27 вульляў даводзіцца да 100 шт. Колькасьць пчол павінна быць павялічана за кошт куплі іх у адзiнаасобнікаў. Для гэтага вызначана правядзеньне рад мерапрыемстваў па захаваньні пчол (пабудова амшаньніку, рамачных вульляў і інш.). У канцы 1931 г. колькасьць пчол даводзіцца да 150 сем'яў.

Па садоўніцтву і гародніцтву таксама вызначаны рад мерапрыемстваў. Мяркуецца, што сад дасьць ня менш 20.000 руб. прыбытку (ёсьць 12 *га* саду). Плошча пад гароднінай павялічваецца ў два разы.

Увесь валавы прыбытак калгасу будзе складаць 93.061 руб. Пасьля адпаведных адлічэньняў умоўна чысты прыбытак гаспадаркі кладзе 55.171 р. 40 к.

Плян калгасу „Вэкер"—зьяўляецца паказальным плянам. Ён робіць вялікі ўклад у справу плянавага будаўніцтва калгаснае гаспадаркі. І ня толькі калгаснае. Ён зьяўляецца праграмай калгаснага будаўніцтва ў вакольных вёсках Чабатавіцкага і Барваўскага сельсаветаў. На посьпехах калгасу „Вэкер", на паказе гэтых дасягненьняў адзінаасобнікам, калгасьнікі будуць канчаткова пераконваць свае масы адзінаасобнікаў у перавазе калектыўнай гаспадаркі над адзінаасобнай.

Складаючы плян, плянавікі гаварылі: „цяпер мы будзем сачыць за кіраўнікамі і кантраляваць выкананьне пляну. Мы самі будзем біцца за яго ажыцьцяўленьне".

На посьпехах калгасу „Вэкэр" тысячы калгасаў павінны вучыцца плянаваму будаўніцтву калгаснай гаспадаркі.

## Ударнікі ўдарнага кварталу

Складаючы свой плян, вэкерцы намецілі сабе праграму калгаснага будаўніцтва ў ваколічных вёсках Чабатавіцкага, Барвёнаўскага і Змычкоўскага сельсаветаў.

Прыступаючы да плянавага будаўніцтва, вэкерцы парашылі апошнія 3 месяцы 1930 г.—кастрычнік—сьнежань—абвясьціць асобным ударным кварталам. На асобны квартал быў складзены адпаведны вытворчы плян.

У сваім вытворчым пляне асобнага кварталу вэкерцы прадугледжвалі пашырэньне плошчы пад яравы клін, ня менш, як на 20%, правядзеньне вялікага будаўніцтва калгаснае гаспадаркі, і, нарэшце, вялікая ўвага ў пляне аддавалася пытаньню ўзаемаадносін калгасьнікаў з адзінаасобнікамі—беднякамі і серадняками, гэта зн., накшталт іх калектывізацыі і інш.

Асобны квартал зьявіўся сапраўды ўдарным. У гэты квартал, у адказ на адозву ЦК УсеКП(б), усе, як мы вышэй паведамлялі, калгасьнікі, як адзін, абвясьцілі сябе ўдарнікамі на ліквідацыю прарываў у іх калгасе.

У калгасе быў зроблены вялікі крок у справе арганізацыі працы калгасаў. Калі да гэтага часу ўся рабочая цягавая сіла калгасу была разьбіта толькі на брыгады, дык цяпер ужо ўведзены цьвёрдыя нормы выпрацоўкі, вылучаны спэцыяльны фонд для прэміяваньня лепшых ударнікаў; растлумачаны і абмяркованы парадак разьмеркаваньня ўраджаю, уся рабочая цягавая сіла скарыстана з вялікім эфэктам. Нарады на работу даваліся ўжо з вечара. Усё гэта зьявілася вялізарнейшым фактарам у падняцьці вытворчасьці працы.

З посьпехам справіўшыся з копкай бульбы і са 100% выкананьнем пляну зябліва, калгасьнікі вылучылі 30% усёй рабочай цягавай сілы на лесараспрацоўкі і вывазку лесу. Замест недахопу рабочае сілы знайшоўся яе лішак.

Вэкерцы, акрамя гэтага, праявілі вялікі гэраізм у правядзеньні будаўніцтва. За ўдарны квартал яны пабудавалі вялікі кароўнік на 80 галоў, скончылі (акрамя даху) пабудову сьвінарніка на 120 сьвінаматак выключна сваімі сіламі.

Замест 40 па пляну, ужо пастаўлена каля 70 сьвіней, якія набыты за кошт закупкі і абагуленьня самімі калгасьнікамі. І так, калгасьнікі свой плян укамплектаваньня сьвінаматкамі ўжо перавыканалі. Гэта зьяўляецца лепшай гарантыяй таго, што сьвіное стада ў канцы 1931 году будзе даведзена ня менш, як да 1.000 галоў.

Вэкерцы галоўнейшай задачай пляну асобнага кварталу ставяць барацьбу за новага калгасьніка. Для выкананьня гэтага пункту яны арганізавалі групы вярбоўшчыкаў па разгортваньні калектывізацыі. Вярбоўшчыкі ў в. в. Змычка і Альхоўка правялі справаздачы перад адзінаасобнікамі, дзе растлумачылі адзінаасобнікам—беднякам і серадняком аб посьпехах свайго калгасу і парадку разьмеркаваньня ўраджаю. Вэкерцы паказалі адзінаасобнікам перавагі калгаснай гаспадаркі над паасобнай. Пад уплывам посьпехаў калгасу „Вэкер“ у в. в. Барвёнаўка, Змычка і Рудня-Альхоўка арганізаваліся ініцыятыўныя групы па арганізацыі калгасаў. І адзінаасобнікі, такім чынам, уключыліся ў барацьбу за заўтрашняга калгасьніка. Адзінаасобнікі—Кухарэнка, Марнчын, Балебусова Ганна, Шылаў і шмат інш. разам з калгасьнікамі-вярбоўшчыкамі рашуча змагаюцца за новы калгасны прыліў.

У пляне асобнага кварталу вэкерцы намецілі калектывізаваць 5 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Аднак, на сёнешні дзень яны ўжо дабіліся ўцягненьня 9 гаспадарак. У ініцыятыўныя групы ядналіся 48 гаспадарак. Вэкерцы выконваюць задачу, якая намечана ў вытворчым пляне на 1931 год, аб калектывізацыі на працягу трэцяга году пяцігодкі большасьці вёсак Чабатавіцкага сельсавету.

Цікава адзначыць, што перш, чым растлумачваць посьпехі калгасу, калгасьнікі значную частку адзінаасобнікаў-актывістых прыцягнулі да вывучэньня іх работы і посьпехаў калгасу. На свае сходы (калі разьмяркоўвалі ўраджай, абмяркоўвалі вытворчы плян на 1931 год і інш.) яны запрашаюць адзінаасобнікаў беднякоў і серадняков ваколічных вёсак.

Калгас „Вэкер“ да новага гаспадарчага году—другога арцельнага году—падыходзіць з вялікімі перамогамі. Праз новыя сацыялістычныя формы працы, разгортваючы ўдарніцтва і сацспаборніцтва, вэкерцы ўзялі сапраўды бальшавіцкія тэмпы.

У іх шмат было недахопаў (ігнаравалі серадняка, няўменьне арганізаваць працу і інш.). Аднак, ня гледзячы на ўсе недахопы і промахі

ў рабоце, амаль увесь плян ударнага кварталу, разьлічанага на 3 месяцы, выкананы на працягу 2 месяцаў (акрамя вывазкі сена). Яны перавысілі плян асеньняй сяўбы, плошчу пад яравы клін, пашырылі на 20% і скончылі зябліва; яны скончылі будаўніцтва, правялі пабелку і апрацоўку саду (12 *га*). Свае абавязкі перад пралетарскай дзяржавай (хлеба і бульбазагатоўкі) выканалі на 200—250 і працуюць на лесараспрацоўках. У сваёй кузьні калгасьнікі на працягу аднаго месяца зарабілі 800 руб., а Уваравіцкаму райкалгассаюзу з'эканомілі 1.200 руб.

Вэкерцы паказалі прыклады ўзорнай работы. Калгас „Вэкер" першы ў раёне распачаў і скончыў будаўніцтва і з посьпехам справіўся з усімі гаспадарча-палітычнымі кампаніямі раней іншых калгасаў. Калгас вылучаны для прэміяваньня за ўдарную работу і посьпехі. Першыя перамогі калгасу „Вэкер"—лепшая гарантыя выкананьня і перавыкананьня вытворчага пляну трэцяга году пяцігодкі.

**Е. Салдаценка.**

Калгас „Вэкер", Уваравіцкі раён.
Лістапад, 1930 г.



Чырвоны абоз з бульбай.

НІВОДНАГА КАЛГАСУ
БЯЗ ВЫТВОРЧАГА ПЛЯНУ
НА 1931 ГОД.

# КАЛГАСНЫ ПРЫЛІЎ

(*Барысаўскі раён*)

У час правядзеньня ўборачнай і васеньня-пасеўнай кампаніі па нашаму с.-с. было выяўлена шмат прарываў—адставаньне з засевам жыта, а таксама з копкай бульбы. Партыйная ячэйка і сельсавет мабілізавалі грамадзкасьць на зьнішчэньне гэтых прарываў. Сяўба і ўборка як у калгасах, так і па індывідуальнаму сэктару закончана к 20 кастрычніка.

Пачынаючы з вясны ў нас быў поўны застой у пытаньні калгаснага прыліву. Вясной г. г. было арганізавана 2 калгасы: „Новае Жыцьцё" ў 20 гаспадарак і „Батрак" у 30 гаспадарак. Але партыйная ячэйка далей арганізацыі не пашла. Пытаньні гаспадарчага замацаваньня калгасаў уплыло зусім з-пад увагі парткіраўніцтва ячэйкі. Пад уплывам



Калгасьнікі калгасу „Кастрычнік" здаюць чырвоны абоз у ссыпны пункт.

апартуністычнага кіраўніцтва абодвы калгасы на працягу ўсяго летняга пэрыоду стаялі пад пагрозай развалу. Ня толькі ў склад сяброў калгасу, але і ў кіруючыя органы пралезьлі клясавыя ворагі—кулакі і падкулачнікі, якія ўвесь час разлагалі калгасы.

У час васеньняй пасеўнай і ўборачнай кампаніі калгасьнікі с талі рашуча ачышчацца ад шкоднікаў сацыялістычнага будаўніцтва. У выніку гэтага калгас „Новае Жыцьцё" на сёнешні дзень мае значныя посьпехі, якія агітуюць нашых адзінаасобнікаў быць сёнешнімі калгасьнікамі. Праведзена ворыва на зяб на 20 *га* і будзе поўнасьцю скончана да 15-XI. Разгорнута гаспадарчае будаўніцтва (пабудована клець будуецца скотны двор).

У час сьвяткаваньня XIII гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі прэміравалі 3-х лепшых ударнікаў калгасу (Вінцарэвіч С., 18 гадоў, Лысковец 70 год, жанчына, і Кавалёва ў 50 г.). На гэтым-жа сходзе пададзена 3 заявы аб уступленьні ў калгас. Новы сябра калгасу Херавец з першага дня стаў ударнікам на будаўніцтве ў калгасе. Поплеч з гэтым бедкякі і серадпякі суседняй в. Колкі, бачучы посьпехі колгаснай гаспадаркі—напярэдадні XIII Кастрычнікавай рэволюцыі ў ліку 8 гаспадарак падалі калектыўную заяву ў сельсавет, дзе яны кажуць: „Мы беднякі і серадняні в. Колкі пераканаліся ў перавагах калектыўнае гаспадаркі над адзінаасобнай, мы пераканаліся ў лініі партыі на правядзеньне суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і на аснове яе зьнішчэньня кулацтва—нашых адвечных зьлюшчых ворагаў-крывапіўцаў. А па гэтаму просім арганізаваць у нашай вёсцы калгас і залічыць нас калгасьнікамі“.

Уноў арганізаваны калгас „Іскра“ ўжо зямляўпарадкаваны і па ўдарнаму правёў ворыва на зяб у адну баразну—паказваючы бліскучыя прыклады калгаснай працы акаляючым сялянам. З першага калектыўнага выхаду на поле пададзена 2 новыя заявы аб уступленьні ў калгас.

— І мы больш ня хочам заставацца адзінаасобнікамі,—заяўляюць ўноўпаступаючыя.

Апрача гэтага, у 2-х вёсках створаны ініцыятыўныя групы па арганізацыі калгасаў.

На сёнешні дзень трэба адзначыць, што вялікай перашкодай у пасьпяховым разгортваньні новага калгаснага прыліву зьяўляецца правапортуністычная практыка сельсавету ў барацьбе з кулацтвам (па цэламу сельсавету ня выяўлена ні аднэй кулацкай гаспадаркі), у той час як гэтыя замаскаваныя кулакі вядуць шалёную барацьбу з калгасамі, а таксама ня зжыта канчаткова апартуністычная стаўка на „самацёк“ сярод некаторых камуністых.

Рашуча падаўляючы супраціўленьне кулацтва, выкрываючы апартуністых, мы справімся з задачамі правядзеньня ў жыцьцё суцэльнай калектывізацыі да канца пяцігодкі.

С. Зуеў.

# З ЗАДАЧАЮ СПРАЎЛЯЕМСЯ

## Прылучаем аднаасобнікаў да калгаснага будаўніцтва

Два гады існуе калгас імя т. Леніна. Арганізаваўся ён выключна з адных батракоў на абшарах разбуранага маёнтку Рэпіскага.

Пачыналі жыць з нічога.

Зараз у калгасе маецца 26 сямей, у якіх было сваіх ня больш 20 кароў і 10—20 коняй. Вось чаму можа нават многім дзіўным паказацца той факт, што мы маем зараз 30 коняй, звыш 150 кароў, штук 30 сьвіней, жняярку, касілку, сеялку, паравую малацілку, паравік, крухмалку, цыркулярку і інш.

Зараз мы ўжо ня толькі атрымоўваем дапамогу ад дзяржавы, а ў шмат чым дапамагаем самі дзяржаве (здалі па мясанарыхтоўках 14 ка-

роў, 4 сьвіней; здаем масла, крухмал і інш.). Плян хлебанарыхтовак перавыканан, замест вызначаных 240 пудоў здалі 400 пудоў. На пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“ падпісаліся на 560 руб.

Гаспадарка наша вялікая, управіцца на ёй 50 працоўным адзінкам немагчыма, асабліва было ў час прыборкі, але нам ідуць на дапамогу аднаасобнікі, і нават і з тых вёсах, якія знаходзяцца ад колгасу на адлегласьці 5 кілёмэтраў. Ні мы з адзінаасобнікамі ні адзінаасобнікі з намі ні ў чым ня лічымся.

Ня было выпадкаў, каб мы адказалі каму-небудзь з беднякоў, або серадњакоў адрамантаваць плуг, калёсы ў нашай кузьні, або адпусьціць насеньня, якога ў нас маюцца лішкі.



Аднаасобнікі ідуць за калгасамі. На малюнку чырвоны абоз аднаасобнікаў.

Сярод адзінаасобнікаў наш колгас карыстаецца поўнай даверлівасьцю. За працу грашыма разьлічвацца даводзіцца ўсяго на палову. Астатнія дамаўляюцца адрамантаваць плуг, нарэзаць дошчак і інш.

Калі хто з адзінаасобнікаў прыяжджае да нашых калгасьнікаў, яму стараюцца паказаць усё наша жыцьцё, гаспадарку. Адзінаасобнікі, прабыўшы ў нас на практыцы, пераконваюцца ў перавагах калгаснага жыцьця. Ніякіх непаразуменьняў у нас з адзінаасобнікамі на працягу ўсяго нашага жыцьця ня было: ні мы, ні адзінаасобнікі нам (бедныкі і серадњакі) не нанесьлі ніякага глуму.

Цікава яшчэ адзначыць адзін момант, калі дзе зьявіцца сярод колгасьнікаў адзінаасобнік, усякія спрэчкі спыняюцца і сходы тыя, на якіх прысутнічаюць адзінаасобнікі, праходзяць неяк па-асобнаму, дружна.

Адзінаасобнікі ідуць да нас, прылучаюць да нас сваю гаспадарку. Варочаюцца і тыя, якія вясною нас кінулі. М. Ш.

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БССР
## У 1931 ГОДЗЕ

У 1930 годзе рабочай клясай, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, былі дасягнуты вялізарнейшыя посьпехі ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва, якія пацьвярджаюць бясспрэчную магчымасьць выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, а па некаторых галінах і ў карацейшы тэрмін. Усё гэтае апракідвае ўсялякія прароцтвы і тэорыі правых апартуністых.

Дзякуючы ўсяму папярэдняму народна-гаспадарчаму разьвіцьцю і рашучаму павароту бядняцка-серадняцкіх мас вёскі да калектывізацыі—у 1929-30 г. былі дасягнуты і значныя посьпехі ў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі Беларусі. Роля сацыялістычнага сэктару павялічылася з 5,5 проц. у пачатку 1929-30 г. да 18 проц. пад канец другога году пяцігодкі, у той час, як пяцігадовым плянам было намечана павялічэньне пад канец 1932-33 апошняга году пяцігодкі да 18 проц.

Бясспрэчна і тое, што пасьпяховае разьвіцьцё працэсаў аграмаджаньня ў сельскай гаспадарцы абумовіла пераход да ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі. Наступленьне па ўсяму фронту ішло ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і лютага супраціўленьня аджываючых кляс, як кулакоў, нэпманаў і розных марак шкоднікаў.

Дасягнуты ўзровень народнай гаспадаркі і ўзросшая вытворчая актыўнасьць рабочай клясы, якая знайшла свой адбітак у разгортваньні сацспаборніцтва і яго ўздым на вышэйшую ступень, далі рэальную магчымасьць павысіць у 1931 г. тэмпы росту народнай гаспадаркі па пляну сацыялістычнай індустрыі і сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі.

Цяпер пяройдзем да канкрэтных мерапрыемстваў, якія прыняты Саветам Народных Камісараў БССР у галіне далейшай сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ў 1931 годзе. Пры чым, трэба агаварыцца, *што ўсе прынятыя СНК БССР капітальныя ўкладаньні, а таксама і разьмеры фінансаваньня на 1931 г.—зьяўляюцца папярэднімі і арыентыровачнымі.*

СНК паставіў задачу давесьці разьмер калектывізацыі да канца 1931 г. да 45 проц. агульнай колькасьці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак плошчы пахаці Беларусі.

Агульная пасеўная плошча БССР прынята на 1931 г. у 4.083 тыс. *га*, у тым ліку пад збожжавымі культурамі—2.553 тыс. *га*, пад тэхнічнымі 283 тыс. *га*, у тым ліку пад лёнам 240 тыс. *га*, пад бульбай 650 тыс. *га*, пад кармовымі караньплодамі 81,5 тыс. *га* (у параўнаньні з 17,9 тыс. *га* ў 1930 г.), пад палявымі травамі 406 тыс. *га*, пад сілоснымі культурамі 34,5 тыс. *га* (у параўнаньні з 1,8 тыс. *га* ў 1930 г.) і пад гародамі 70 тыс. *га*.

Пасеўная плошча прыстасаваных савецкіх гаспадарак павінна быць даведзена да вясны 1931 г. да 135,5 тыс. *га* ў параўнаньні з 57 тыс. *га* ў 1930 г., у тым ліку па сетцы Белсаўгастрэсту да 43,5 тыс. *га* ў параўнаньні з 26,8 тыс. *га* ў 1930 г.

Адпаведнымі мерапрыемствамі па сельскай гаспадарцы павінна быць забясьпечана павялічэньне ўраджайнасьці збожжавых культур

у савецкіх гаспадарках да 12 проц. з *га* і ў калгасах да 10 проц. з *га*, а ў індывідуальных гаспадарках да 8 проц., па лёну на 15 проц. з *га* і бульбе на 10 проц. з *га*.

Зьмены ў складзе стада да вясны 1931 г. у параўнаньні з 1930 г. вызначаны ў наступных велічынях: павялічэньне пагалоўя буйнай рагатай жывёлы на 26,6 (з 1.741 тыс. штук да 2.204 тыс. штук), у тым ліку кароў на 5;7 проц. (з. 1.168 тыс. штук да 1.234 тыс. штук), сьвіней на 50 проц. (з 1.658 тыс. штук да 2.488 тыс. штук), а ўсёй жывёлы ў пераводзе на буйную рагатую жывёлу на 8 проц. (з 2.777 тыс. штук да 2.998 тыс. штук). У частцы прадукцыйнасьці жывёлы праз спэцыяльныя мерапрыемствы па кармленьні і ўтрыманьні жывёлы павінна павялічыцца ўдойлівасьць кароў у сярэднім на 10 проц., давёўшы яе да 10 цэнт. у год кожную штуку, а ў спэцыяльных малочна-жывёлагадоўчых гаспадарках аграмаджанага сэктару ня менш як на 20 проц.

У мэтах пашырэньня колькаснага складу стада і павялічэньня таварнасьці жывёлагадоўлі—СНК прызнаў неабходным правесьці ў 1931 годзе наступныя галоўныя мерапрыемствы:

1. Давесьці да 1 студзеня 1932 г. лік спэцыяльных прыгарадных малочных калгасаў да 102 гаспадарак з агульнаю колькасьцю кароў 27 тыс. штук.

2. Лік глыбінных малочна-жывёлагадоўчых калгасаў павялічыць да 360 з колькасьцю кароў 35,5 тыс. штук.

3. Арганізаваць 200 калгасаў спэцыяльна для гадаваньня маладняка буйнай рагатай жывёлы з агульнаю колькасьцю цялят у іх ня менш 20 тыс. штук.

4. У непрамысловых калгасах разгарнуць работу для гадаваньня цялят у колькасьці ня менш 30 тыс. штук.

5. З арганізаваных і арганізуемых калгасаў выдзеліць 10 спэцыяльных калгасаў для разьвядзеньня палепшанай малочнай жывёлы з матачным складам ня менш 1.700 кароў.

6. Давесьці стада буйнай рагатай жывёлы Белсаўгастрэсту да 50,5 тыс. штук, у тым ліку кароў да 17,9 тыс. штук і цялят да 20 тыс. штук.

7. Адначасова з разьвіцьцём сьвінагадоўлі па лініі Сьвінатрэсту рашуча ўзмацніць работу ў калгасах, паставіўшы задачу давесьці да 1-га студзеня 1932 г. лік спэцыялізаваных па прамысловай сьвінагадоўлі калгасаў да 1000 гаспадарак з агульным лікам сьвінаматак у іх да 150 тыс. штук.

8. Спэцыяльнымі мерапрыемствамі забясьпечыць астаўленьне на племя ў 1931 г. цялят у колькасьці ня менш 40 проц. агульнага ліку дойных кароў, а для папаўненьня стада аграмаджанай часткі сельскай гаспадаркі закантрактаваць 125 тыс. цялят ад найбольш прадукцыйных кароў.

Для арганізацыі кармавой базы вызначаны такія мерапрыемствы:

1. Арганізацыя шматпалёвых севазваротаў з палявым травасеяньнем, давёўшы плошчы пад укоснаю канюшынаю да 162 тыс. *га* і пад вікаю на сена да 185 тыс. *га*.

2. Правесьці найбольш простае павярхоўнае палепшаньне сенажацяй на плошчы 300 тыс. *га* і карэннае палепшаньне на плошчы 50 тыс. *га*,

з якіх адвесьці пад штучныя сенажаці і пашы ня менш 9 тыс. *га* і пад раньнія культуры 12 тыс. *га*.

3. Адначасова з пашырэньнем плошчы пад кармовымі караньплодамі да 80 тыс. *га* арганізаваць сіласаваньне кармоў у колькасьці ня менш 1,3 млн. тон.

4. Для разьмяшчэньня сілоснай масы паставіць 665 вежаў, у тым ліку ў савецкіх гаспадарках 155 і ў калгасах 510, разьмеркаваўшы рэшту масы ў траншэях і ямах.

Каб падвысіць земляробчую прадукцыю, забясьпечыць ёю ўзрастаючую жывёлагадоўлю і сельска-гаспадарчую індустрыю—СНК БССР прыняў наступныя мерапрыемствы ў частцы палявой і гародна-садовай гаспадаркі:

1. Загатовіць на працягу 1930 г. торфа-мохавай падсьцілкі 60 тыс. тон, у тым ліку ў савецкіх гаспадарках 10 тыс. тон, у калгасах 30 тыс. тон, у сельска-гаспадарчых таварыствах 20 тыс. тон; торфу на ўгнаеньне—2 млн. тон, у тым ліку ў савецкіх гаспадарках 200 тыс. тон, у калгасах 800 тыс. тон, а па лініі сельска-гаспадарчай каапэрацыі 1 млн. тон.

2. Максымальна скарыстаць усе годныя для ўгнаеньня хатнія адкіды гарадоў і сельскіх паселішчаў праз кампаставаньне з торфам, для чаго загатовіць торфу ў колькасьці да 80 тыс. тон, з якіх у савецкіх гаспадарках 8 тыс. тон, у калгасах 32 тыс. тон і ў сельска-гаспадарчых таварыствах 40 тыс. тон.

3. Пашырыць культуру лубіну на зялёнае ўгнаеньне, давёўшы пасеўную плошчу пад ім да 150 тыс. *га*, і адначасова ўжыць захады да пашырэньня пасеву лубіну на насеньне.

4. Арганізаваць сыстэматычны збор попелу на ўгнаеньне ў колькасьці ня менш 20 тыс. тон, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на захаваньне попелу пры завадзкіх прадпрыемствах.

5. Завапнаваць на працягу 1931 г. плошчу ня менш 80 тыс. *га*, у тым ліку ў савецкіх гаспадарках 11,5 тыс. *га*, у калгасах 60 тыс. *га*, у сельска-гаспадарчых таварыствах 8,5 тыс. *га*.

6. СНК лічыць патрэбным забясьпечыць сельскую гаспадарку Беларусі мінэральным угнаеньнем у колькасьці 350 тыс. тон.

7. Агульны аб'ём забясьпечаньня машынамі вызначаны ў 30 млн. руб., з якіх на прывоз 3.445 трактараў вылучана 4,6 млн. руб., на сельска-гаспадарчыя машыны 22,6 млн. руб., на аўтатранспарт—1,5 млн. руб. і на арганізацыю рамонтных майстэрняў—1,3 млн. руб.

8. Пад прыгараднымі прамысловымі гародамі вызначана плошча ў 12 тыс. *га*, з якіх у савецкіх гаспадарках 2 тыс. *га* і ў калгасах 10 тыс. *га*, адпаведна разгарнуўшы парніковае гародніцтва.

9. Арганізаваць па лініі Белсаўгастрэсту спэцыяльныя агародна-садовыя базы (давёўшы да канца 1931 г. плошчу ў іх пад пладовымі выхавальнікамі да 1.360 *га*).

Для ўцягненьня ў сельска-гаспадарчы зварот нескарыстаных зямель і арганізацыі на іх буйных спэцыялізаваных савецкіх гаспадарак—прыняты наступны аб'ём мэліарацыйных работ: рэгуляваньне рэк з агульным выняцьцем 2 млн. куб. мэт. пракладка магістральных каналаў на даўжыні 500 клм.; інтэнсыўная асушка плошчы 113,5 тыс. *га* і падняцьце цаліны на абсушаных балотах 30 тыс. *га* і выкарчоўка 50 тыс. *га*.

Агульны кошт мерапрыемстваў, намечаных кантрольнымі лічбамі на 1931 г. па сельскай гаспадарцы, прыняты ў суме 238,8 млн. руб.

Разьмеры капітальных укладаньняў у цэнах 1931 г. на сельскія станцыі прыняты ў суме 7.850 тыс. руб., у тым ліку на будаўніцтва станцыі Рагачоўскага аграіндустрыяльнага камбінату 3 млн. руб. і Мар'іна-Загальскай савецкай гаспадаркі 1 млн. руб.

Для ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, прадугледжаных плянам лясной гаспадаркі, агульны разьмер фінансаваньня вызначаны ў 16.412 тыс. руб., у тым ліку на капітальныя ўкладаньні 7.604 тыс. руб. і на апэрацыйныя выдаткі 8.808 тыс. руб.

У галіне снабжэньня і абмену прыняты наступныя заданьні на 1931 год па прыгарадных гаспадарках спажывецкай каапэрацыі:

| | На 1-I—32 г. | | На 1-I—31 г. |
|---|---|---|---|
| Агароды | 5.600 *га* | замест | 800 *га* |
| Малочныя фэрмы | 12.000 кароў | „ | 7.830 кароў |
| Сьвінаматкі | 9.100 галоў | „ | 3.682 галоў |
| Адкорм сьвіней | 12.000 месц | „ | 7.536 месц |
| Парнікі | 54.000 рам | „ | 1.750 рам |
| Садова-ягадны | 1.100 *га* | „ | — |

У галіне дарожнага будаўніцтва мясцовых дарог аб'ём укладаньняў прыняты ў суме 27.094,5 тыс. руб.

Улічваючы, што задача далейшай калектывізацыі вёскі зьяўляецца асноўнаю задачаю ў справе сацыялістычнага перабудаваньня сельскай гаспадаркі, СНК БССР даручыў Наркамзему, Белкалгасцэнтру, сыстэмам вытворчай каапэрацыі і ўсім мясцовым органам з усёю энэргіяй разгарнуць работу для разьвіцьця калгаснага руху, стаць на чале новай хвалі прыліву ў калгасы і кіраваць ім, з тым, каб нясупынна і сыстэматычна праводзячы на базе суцэльнай калектывізацыі ліквідацыю кулацтва як клясы.

Белкалгасцэнтру і мясцовым органам даручана забясьпечыць арганізацыю ініцыятыўных груп калгасьнікаў для ўцягненьня новых бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы.

Адзначаючы вялікае значэньне мерапрыемстваў па сацыялістычнай рэканструкцыі жывёлагадоўлі, намечаных кантрольнымі лічбамі на 1931 г., СНК даручыў Наркамзему, Белкалгасцэнтру, Белмалжывёлсаюзу і іншым арганізацыям, якія гадуюць жывёлу, а таксама ўсім мясцовым органам забясьпечыць своечасовае выкананьне пляну разьвіцьця жывёлагадоўлі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на выкананьне плянаў будаўніцтва і на дасягненьне высокіх якасных паказчыкаў (удойлівасьць, наогул). Адначасова з тым, Наркамзему даручана мецьсталы нагляд за ходам выкананьня пляну разьвіцьця жывёлагадоўлі.

Для своечасовага выкананьня будаўнічай праграмы сельска-гаспадарчага будаўніцтва—Наркамзему даручана весьці паказанае будаўніцтва ў зімовы час максымальна паскораным тэмпам, дзе гэта магчыма па тэхнічных умовах, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на скарыстаньне зімовага пэрыяду для загатовак будаўнічых матар'ялаў.

Савет Народных Камісараў БССР даручыў усім гаспадарчым арганізацыям разам з прафсаюзамі зараз-жа разгарнуць работу па давядзеньню кантрольных лічбаў да рабочых прадпрыемстваў, саўгасаў і калгасьнікаў і забясьпечыць складаньне сустрэчных прамфінплянаў.

І так, СНК БССР зацьвердзіў кантрольныя лічбы па сельскай і лясной гаспадарцы на 1931 г. Рабочыя саўгасаў, калгасьнікі, бядняцка-серадняцкія масы, партыйныя ячэйкі, камсамолія і ўся савецкая грамадзкасьць павінны зараз-жа ўзяцца за прапрацоўку рашэньняў ураду БССР. *С. Лодысеў.*



Пабудова памяшканьня сіласавай башні.

# КРАЯЗНАЎЧЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ

## павінны прыняць актыўны ўдзел у двухмесячніку агляду дасягненьняў калгасаў і саўгасаў

Калгасцэнтр СССР і ўсесаюзная Акадэмія с.-г. навук імя Леніна праводзяць ва ўсім СССР 2-х месячнік (лістапад—сьнежань) усесаюзнага агляду дасягненьняў у сацыялістычным эектары сельскай гаспадаркі і абмену дасягненьнямі ў галіне арганізацыі і тэхнікі буйнай сацыялістычнай с.-г. вытворчасьці. Гэты двухмесячнік праводзіцца і ў БССР пад кіраўніцтвам Цэнтральнай камісіі па агляду пры Белкалгассаюзе.

Двухмесячнік павінен выявіць усе дасягненьні, рацыяналізатарскія прапановы і вынаходніцтва, якія паляпшаюць як паасобныя вытворчыя

працэсы ў сельскай гаспадарцы, так і ў цэлым арганізаваныя формы буйнай сацыялістычнай вытворчасьці, і зрабіць іх уласнасьцю ўсіх калгасаў і саўгасаў СССР. Двухмесячнік павінен таксама дапамагчы ажыцьцяўленьню дырэктыў партыі аб максымальным уцягненьні ў калгасы новых мас беднякоў і серадністаў.

Агляд дасягненьняў будзе праводзіцца ў наступных галінах: а) падрыхтоўка і правядзеньне с.-г. кампаній, б) догляд за пасевамі; в) арганізацыя жывёлагадоўлі; г) арганізацыя працы; д) арганізацыя масавага прыліву ў калгасы; е) арганізацыя ўдарніцтва і соцспаборніцтва, арганізацыя і праца культурна-бытавых устаноў і г. д. (глядзі інструкцыю Цэнтр. камісіі). Побач з дасягненьнямі павінны быць выяўлены і ўсе недахопы і страты ў калгасах і саўгасах і распрацаваны шляхі для хутчэйшага зьнішчэньня іх.



Малацьба ў калгасе.

Для правядзеньня агляду ў кожным калгасе і саўгасе арганізуюцца аглядавыя фонды з лепшых ударнікаў і прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацый.

Краязнаўчыя арганізацыі павінны прыняць самы актыўны ўдзел у працы брыгад па вывучэньню дасягненьняў калгасаў і саўгасаў, у папулярызацыі гэтых дасягненьняў сярод калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, у разгортваньні ў калгасах і саўгасах рацыяналізатарскага і вынаходніцкага руху, масавай дасьледчай працы, і абуджэньні ініцыятывы і дапамозе рабочым саўгасаў і калгасаў у складаньні сустрэчнага вытворча-фінансавага пляну.

Агляд дасягненьняў павінен паказаць рабочым саўгасаў, калгасьнікам і бядняцка-серадняцкім масам усё значэньне сапраўднай масавай краязнаўчай працы ў сацыялістычным будаўніцтве. У працэсе самае дасьледчае працы па вывучэньню дасягненьняў краязнаўчыя арганізацыі павінны азнаёміць працоўныя масы і з мэтодамі дасьледваньня і апрацоўкі матар'ялаў для дакладаў; для друку (у газэтах, часопісах). Разам з тым неабходна проста і ясна, на практыцы паказаць калгасьнікам і рабочым саўгасаў, як масавая дасьледчая праца дапамагае сацыялістычнаму будаўніцтву (выкарыстаньне вопыту лепшых калгасаў і саугасаў, складаньне сустрэчных плянаў, зьнішчэньне недахопаў).

Прадумана праведзеная ад пачатку да канца аглядавая праца павінна зьявіцца найлепшай практычнай школай падрыхтоўкі калгасьнікаў і рабочых саўгасаў да непасрэднае краязнаўчае працы, як аднэй з форм актыўнага ўдзелу мас у сацыялістычным будаўніцтве СССР.

Двухмесячнік агляду павінен быць і двухмесячнікам разгортваньня масавага краязнаўчага руху сярод рабочых саўгасаў і калгасьнікаў. У гэты двухмесячнік краязнаўчыя арганізацыі павінны шырока папулярызаваць у калгасах і саўгасах задачы савецкага краязнаўства і мэтады краязнаўчай працы, арганізаваць ва ўсіх калгасах і саўгасах краязнаўчыя гурткі, разгарнуць шырокі краязнаўчы рух.

Сабраныя аглядавымі брыгадамі матар'ялы павінны быць выкарыстаны ўсімі краязнаўчымі арганізацыямі. Яны павінны быць апрацаваны для друку, дакладаў і дыяграм для хат-чытальняў, клюбаў, краязнаўчых музэяў.

Неадкладнае ўключэньне ўсіх краязнаўчых арганізацый у раёнах у працу раённых камісій і брыгад па агляду дасягненьняў, распрацоўка мерапрыемстваў па зьнішчэньню выяўленых недахопаў, арганізацыя і пашырэньне ў калгасах соцспаборніцтва і ўдарніцтва, рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў і вынаходніцтва, уцягненьне новых мас беднякоў і серадняков у калгасы, разгортваньне масавага краязнаўчага руху ў калгасах і саўгасах і ўсямерная дапамога і актыўны ўдзел у будаўніцтве буйных сацыялістычнага тыпу гаспадарак (саўгасаў і калгасаў) вось бліжэйшыя і неадкладныя задачы ўсіх краязнаўчых арганізацый.

**В. Самцэвіч.**

## Паштовая скрынка

**Саўчанку Язэпу** (Полацкі раён).—Дасланы матар'ял аб птушкаводчай гаспадарцы будзе зьмешчан у бліжэйшых нумарох часопісу.

**Яфрэмаву С.** (Бабруйск).—Дасланыя артыкулы зьмесьцім. Пішэце, як калгасы рыхтуюцца да веснавой сяўбы.

**Членам калгасу „Тружэнік"** (Лепельскі раён).—Ваш ліст накіраваны ў Белкалгасцэнтр.

**Глуху М.** (Барысаўскі раён).—Дасланае зьмесьцім. Пішэце яшчэ.

**Стаховічу А.**—Нарыс „Там, дзе былі хутары" напісан няўдала, вельмі суха, няма канкрэтных даных. Напішэце аб гэтым заметкай, у якой падайце факты і лічбы.

**Стрынадка** (Брагінскі раён).—Допіс аб вёсцы Ясень ня пойдзе. Напішэце больш падрабязна, як жыве калгас „Ленінец".

**Ігнаценку.**—„Штурмуе Восіпаўка" зьмесьцім. Апавяданьне ня пойдзе.

**Майстрыкову Б.** (Юравіцкі раён).—„Зьвесткі з раёну" ня пойдзе. Пішэце канкрэтна аб жыцьці ў калгасах.

Адказны рэдактар—**Рэдкалегія.**

ЦАНА 15 кап.

129

# АДКРЫТА ПАДПІСКА на 1931 г.

## НА ЧАСОПІС

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Орган Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР

У 1931 г. ЧАСОПІС „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“ БУДЗЕ РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.

Часопіс асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, шырока асьвятляе жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў.

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінна мець часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць часопіс „Шляхі калектывізацыі“.

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА на 1931 г.

24 НУМАРЫ ЧАСОПІСУ Ў ГОД

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год | 3 руб. | |
| „ 6 мес | 1 „ | 50 кап. |
| „ 3 „ | „ „ | 75 „ |
| „ 1 „ | „ „ | 25 „ |

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

На кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў выдавецтве „Беларуская Вёска“.

АДРАС РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСУ:

г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.